ПРАЛЕТАРЫІ ЎСІХ КРАІН, ЯДНАЙЦЕСЯ!

# Літаратура і мастацтва

Выдаецца з 1932 г.
№ 50 (2629)
ПЯТНІЦА 15 снежня 1972 г.

ОРГАН МІНІСТЭРСТВА КУЛЬТУРЫ І ПРАЎЛЕННЯ САЮЗА ПІСЬМЕННІКАЎ БССР

ВЫХОДЗІЦЬ РАЗ У ТЫДЗЕНЬ НА ШАСНАЦЦАЦІ СТАРОНКАХ

Цана 8 кап.

**Мы вымаўляем «Ленінград»** — і паўстаюць перад вачыма Ленін на браневіку ля Фінляндскага вакзала, матросы і салдаты з чырвонымі стужкамі на грудзях у калідорах Смольнага, легендарная «Аўрора» ў няспешнай плыні Нявы...

Мы вымаўляем «Ленінград» — і бачым у белай начы шчымліва дарагія сілуэты Пушкіна, Бялінскага, Дастаеўскага. Бачым пастроеных дзекабрыстамі салдат ля ўздыбленага Меднага Конніка. Бачым сонечныя блікі на шпілі Адміралцейства і велічную прыгажосць тварэнняў Растрэлі Кварэнгі...

Мы вымаўляем «Ленінград» — і ля Кацярынінскага канала здзяйсняе рэвалюцыйны прысуд цару наш зямляк Грыняўіцкі. І ля парапета Фантанкі чытае свае вершы з «Жалейкі» малады Купала. І ў суровую блакадную зіму бярэ на прыцэл яшчэ аднаго гітлераўца сінявокі магілёўскі пастушок Смалячкоў...

Ленінград — Беларусь... Як многа ў гэтым спалучэнні! Дружбе Ленінграда і Беларусі, іх пісьменніцкіх арганізацый, іх творчых усгамоў прысвячаюцца матэрыялы сённяшняга нумара газеты.



А. УШЫН. Смольны.

## У ЦЭНТРАЛЬНЫМ КАМІТЭЦЕ КПБ, ПРЭЗІДЫУМЕ ВЯРХОЎНАГА САВЕТА БССР, САВЕЦЕ МІНІСТРАЎ БССР І БЕЛАРУСКІМ САВЕЦЕ ПРАФСАЮЗАЎ

Цэнтральны Камітэт КП Беларусі, Прэзідыум Вярхоўнага Савета Беларускай ССР, Савет Міністраў Беларускай ССР і Беларускі рэспубліканскі савет прафсаюзаў за поспехі, дасягнутыя ў рэспубліканскім сацыялістычным спаборніцтве ў гонар 50-годдзя ўтварэння Саюза ССР, узнагародзілі юбілейнымі ганаровымі граматамі ЦК КП Беларусі, Прэзідыума Вярхоўнага Савета БССР, Савета Міністраў БССР і Беларускага савета прафсаюзаў вялікую групу калектываў прадпрыемстваў, арганізацый, саўгасаў і калгасаў. Сярод адзначаных гэтымі ганаровымі ўзнагародамі, калектывы:

Гомельскай абласной бібліятэкі імя У. І. Леніна;
Гродзенскага абласнога драматычнага тэатра;
Жлобінскай фабрыкі мастацкай інкрустацыі;
выдавецтва «Беларусь»;
упраўлення кінафікацыі Магілёўскага аблвыканкома.

# НАМ ПАВЕДАМЛЯЮЦЬ...

## З БРЭСТА

Усе культурна-асветныя ўстановы горада ўдзельнічалі ў навукова-тэарэтычнай канферэнцыі, прысвечанай 50-годдзю ўтварэння СССР, якая была арганізавана абласным камітэтам КПБ.

З дакладамі аб мацнеючых сувязях братніх рэспублік на ёй выступілі прадстаўнікі Брэстчыны, Арлоўшчыны, Валыншчыны. Аб польска-савецкай дружбе гаварылі госці з Любліна.

У залах абласнога Дома палітасветы, дзе праходзіла канферэнцыя, былі наладжаны выстаўкі «Адноўлены край», «СССР — краіна братняй дружбы народаў», «Літаратуры братніх рэспублік» і іншыя. Іх падрыхтавалі работнікі абласной бібліятэкі і краязнаўчага музея.

□

У РСФСР, на Украіну, у Казахстан, рэспублікі Закаўказзя з Брэста адпраўляюцца швейныя вырабы, дываны, газавыя пліты і іншыя тавары. А сюды з усіх канцоў краіны ідуць вугаль, будаўнічыя матэрыялы, бавоўна, сельскагаспадарчыя машыны і іншая прадукцыя.

Аб гэтых сувязях расказвае шматколерная карта, што ўпрыгожвае залу абласнога краязнаўчага музея. Яе выканалі мастакі брэсцкіх мастацкіх майстэрань.

У музеі наладжаны таксама фотавыстаўкі, прысвечаныя дасягненням асобных прадпрыемстваў і калгасаў вобласці за гады пяцігодак.

□

Фестываль музычнага мастацтва праходзіць у Брэсцкім музычным вучылішчы. З канцэртамі-справаздачамі выступаюць сімфанічны і духавы аркестры, аркестр народных інструментаў, харавыя калектывы, баянныя ансамблі...

Свята 50-годдзя СССР навучэнцы вучылішча сустрэнуць у новым памяшканні з выдатнай канцэртнай залай на 500 месц. Тут адбудзецца заключны святочны канцэрт фестывалю.

## З МАЗЫРА

Адна з залаў Мазырскага вытворча-тэхнічнага вучылішча № 68 нагадвае музей. Тут сабраны сотні работ самадзейных майстроў інкрустацыі і разьбы па дрэву.

Асаблівую ўвагу прыцягваюць інкруставаныя партрэты У. І. Леніна і М. Я. Свярдлова — работы старэйшага выкладчыка вучылішча М. Круглікава.

Тут жа знаходзіцца пано «Шалаш Леніна ў Разліве», выкананае пад кіраўніцтвам М. Круглікава яго вучнямі — В. Драпезай, В. Хамутоўскім, А. Якушам. В. Шурпачом. Гэтыя ж хлопцы зрабілі вельмі прыгожыя столікі з інкруставаным подпісам: «50 гадоў СССР».

Некаторыя работы, выкананыя навучэнцамі вучылішча, экспануюцца ў Мазырскім краязнаўчым музеі.

□

Аповесці «Маршавая рота», «Першы бой», «На блакітным Дунаі», «10 дзён адпачынку», раман «Высокі востраў» — гэта не поўны пералік твораў пісьменніка Дзмітрыя Сергіевіча, ураджэнца Мазыршчыны. У мазырскай газеце пачынаў ён некалі свой творчы шлях.

Нядаўна мазырскія журналісты — члены літаб'яднання гасцінна прынялі ў сябе пісьменніка, які зараз жыве і працуе ў Адэсе. Дзмітрый Сергіевіч расказаў пра сваю работу, падзяліўся творчымі планамі.

## З МАГІЛЁВА

*...Самы вялікі магазін у рэспубліцы пасля мінскага ЦУМа—універмаг у Магілёве. Над яго рэканструкцыяй працавалі архітэктар У. Пушкін і група інжынераў пад кіраўніцтвам Я. Роса.*

*Будуецца Палац піянераў (архітэктар І. Фралоў, галоўны інжынер І. Казакова), адзін з трох яго корпусаў — спартыўны — ужо здадзены ў эксплуатацыю.*

*Заканчваецца будаўніцтва турбазы «Днепр», абласной бальніцы, новага 9-павярховага жылога дома.*



На памяць аб сустрэчы. Злева направа: Янка Скрыган, В. А. Чарняцоў, К. Р. Паўлянковіч, Г. У. Заборскі, Алесь Савіцкі, Іван Шамякін, Іван Чыгрынаў і М. М. Джагараў.
Фота Ул. КРУКА.

# ЛЮДЗІ З БІЯГРАФІІ РЭСПУБЛІКІ

## СУСТРЭЧА Ў САЮЗЕ ПІСЬМЕННІКАЎ БССР

БЫЛЫ партызанскі важак Міхаіл Міхайлавіч Джагараў і шафёр - выпрабавальнік Мінскага аўтазавода, Герой Сацыялістычнай Працы Канстанцін Рыгоравіч Паўлянковіч, архітэктар, лаўрэат Дзяржаўнай прэміі СССР Георгій Уладзіміравіч Заборскі і інжынер Мінскага завода вылічальных машын Валянцін Аляксандравіч Чарняцоў...

Імёны гэтых людзей нярэдка гучаць па радыё і тэлебачанні, у газетах і часопісах друкаваліся пра іх нарысы, карэспандэнцыі.

У мінулую пятніцу яны прыйшлі на сустрэчу ў Саюз пісьменнікаў БССР.

...КАНСТАНЦІН РЫГОРАВІЧ ПАЎЛЯНКОВІЧ дваццаць гадоў выпрабоўвае «МАЗы». Пачынаў з самазвалаў, якія ў пачатку пяцідзесятых гадоў выпускаў Мінскі аўтазавод, зараз выпрабоўвае магутныя дваццаціпяцітонныя аўтапаязды.

Што такое шафёр-выпрабавальнік? Мы неяк прывыклі ўжо да слова «выпрабавальнік» аўтаматычна падстаўляць—«лётчык». Лётчык-выпрабавальнік. У памяці адразу паўстаюць славутыя імёны людзей, якія прысвяцілі сябе гэтай рамантычнай і небяспечнай прафесіі. Мабыць, выпрабоўваць машыны, што ходзяць па зямлі, не так небяспечна, як самалёты. Хаця і тут рызыкі хапае.

— Мы ж атрымліваем зусім «сырую» машыну, —расказваў Канстанцін Рыгоравіч,—вядзеш, бывае, яе па дарозе агульнага карыстання і думаеш —хаця б усё было добра. Не падвялі тармазы, рулявое кіраванне... Уяўляеце, якая махіна ідзе па дарозе...

Звычайна, кожная машына мае свой характар і шафёр, які на ёй працуе, добра яго вывучае. Выпрабавальнікі, як тыя аб'ездчыкі дзікіх коней, ускочыць — ускочыў, а што твой мустанг кожную хвіліну можа зрабіць—не ведаеш.

Зразумела, што за адказнасць ляжыць на выпрабавальніку. Менавіта ён павінен сказаць, на якую, вобразна кажучы, нагу кульгае машына, якія канструктыўныя і вытворчыя недахопы трэба ліквідаваць. Адным словам, апошняе «добра» машыне перад тым, як запусціць яе на канвеер, дае шафёр-выпрабавальнік.

— Выпрабоўваем мы машыны ў розных кутках краіны,—гаворыць Канстанцін Рыгоравіч. — На поўначы, каб убачыць як трымаюць яны сябе на добрым марозе. На поўдні, на крутых горных дарогах. Але гэта яшчэ не ўсё, —усміхаецца ён.— Ёсць спецыяльны аўтапалігон, дзе выпрабоўваюцца машыны розных марак. Спачатку, скажам, едзеш кіламетраў пяцьсот па васьмікіламетровым кальцы, выбрукаваным спецыяльным камнем. Адзін, разумееце, камень вялікі, другі—малы. Такая дарога. Едзеш і, здаецца, машына вось-вось рассыплецца, і ты з ёю разам. Але нашы «МАЗы» з гонарам выходзяць з гэтага выпрабавання. Ёсць на палігоне і спецыяльная тумба, аб якую б'юць машыны. Садзяць за руль манекен з датчыкамі і на зададзенай хуткасці пускаюць машыну на гэтую тумбу. Глядзяць, што з той машынай і з манекенам будзе. Хацелі і наш «МАЗ» выпрабаваць, а пасля пашкадавалі... тумбу, яна дарагая...

Пабыў Канстанцін Рыгоравіч за мяжой, памагаў асвойваць мінскія аўтамабілі ў Егіпце, Сірыі, В'етнаме. Усміхаецца:

— Каб пабыць ва ўсіх краінах, дзе нашы «МАЗы» працуюць, жыцця не хопіць. У сорак пяць краін прадаём...

ПЕРШЫ эскіз манумента, які зараз стаіць на плошчы Перамогі ў Мінску і вядомы ўсяму свету, Георгій Уладзіміравіч Заборскі зрабіў у ваенным шпіталі ў 1943 годзе.

— З першай хвіліны Айчыннай вайны мы ўсе верылі ў перамогу, —сказаў ён.

У 1944 годзе, адразу пасля вызвалення, Георгій Уладзіміравіч прыехаў у Мінск. З тых дзён і пачынаецца, фактычна, яго творчая біяграфія.

Асобным этапам у ёй архітэктар лічыць свой удзел у забудове Верцялішак — цэнтра калгаса «Прагрэс», што на Гродзеншчыне. Сёння Верцялішкі вядомы далёка за межамі Беларусі, сюды з усіх канцоў краіны, з-за мяжы едуць людзі паглядзець арыгінальную архітэктуру, планіроўку новай вёскі. За Верцялішкі калектыву архітэктараў была прысуджана Дзяржаўная прэмія СССР.

Усё гэта, так сказаць, вядомыя рэчы. І Георгій Уладзіміравіч не стаў іх паўтараць. Ён расказаў, як нараджалася задума, як яна ажыццяўлялася.

— У 1965 годзе мне прапанавалі паехаць у адну з вёсак і накідаць праект яе забудовы. І вось еду я ў вёску, жыву там, вывучаю, так сказаць, жыццё. Пасля нараджаецца праект. З ім я вяртаюся ў Верцялішкі. Збіраецца актыў, прыходзяць паглядзець на гэтае дзіва сяляне. Я вельмі красамоўна ўсё тлумачыў і чакаў апладысментаў,—усміхаецца Георгій Уладзіміравіч,—але апладысментаў не было. Мала таго, на тварах людзей — абыякавасць. Нічога не разумею. Нават разгубіўся. І толькі пасля зразумеў—не цікава ўсё было сялянам таму, што я, гарадскі архітэктар, прывык мысліць гарадскімі катэгорыямі і ўсё гэта механічна сюды перанёс.

Вось такім камяком прайшоў першы блін. Георгій Уладзіміравіч склаў спецыяльныя анкеты, што павінны былі даць адказ на пытанне, якой бачаць новую вёску, тыя, каму давядзецца там жыць. Нарадзіўся новы праект. Зроблены былі макеты, шкляныя макеты дамоў, каб можна было ўбачыць, што ў сярэдзіне. Вось тут сяляне і зацікавіліся. Пасыпаліся прапановы.

— І ўсё роўна, першы эксперыментальны дом у Верцялішках,— расказвае Г. Заборскі, — давялося некалькі разоў перарабляць. То адно не падабалася людзям, то другое. Ноччу ламалі, удзень майстравалі, пакуль, нарэшце, не прыйшлі да згоды.

Як павінна выглядаць заўтрашняя вёска? Ці гэта будзе маленькі гарадок, ці ўсё ж застанецца вёска—так, з усімі гарадскімі выгодамі, але ўсё ж такі вёска, з яе традыцыямі?

Спрэчка пра гэта не заціхае. І, натуральна, пытанне гэтае не было абыдзена і на вечары.

— Верцялішкі гэта, зядома, цудоўна,—гаворыць Язэп Ігнатавіч Семяжон, —але калі ўсе вёскі будуць забудоўвацца як Верцялішкі, гэта ўжо будзе сумна. Кожная ж вёска мае свой непаўторны твар...

— Я згодзен з вамі,— адказвае Георгій Уладзіміравіч. — Капіраваць Верцялішкі нельга. На іх прыкладзе мы толькі абагульняем вопыт сельскага будаўніцтва, каб не паўтараць цярністага шляху, які мы прайшлі тут. Увогуле ж, у рэспубліцы, у кожнай вобласці вызначана эксперыментальная гаспадарка для забудовы з улікам ландшафту, традыцый і іншых асаблівасцей менавіта гэтага краю. Смешна было б на Палессі будаваць так, як скажам, на Віцебшчыне.

Івана Пятровіча Шамякіна зацікавіла, ці выкарыстоўваюцца пры новых забудовах вёсак атрыбуты народнай архітэктуры?

Г. Заборскі адказвае, што сапраўдная архітэктура, якой бы сучаснай яна не была, грунтуецца на традыцыйным народным пачатку.

— У Верцялішках, напрыклад, мы прыцягнулі народных умельцаў да аздаблення дамоў,— гаворыць ён.—Так будзем рабіць і ў іншых месцах.

НА ГЭТЫМ вечары прагучала яшчэ адна тэма—тэма інтэрнацыянальнай дружбы народаў, усё растучага міжнароднага аўтарытэту Беларусі.

У гады Айчыннай вайны Міхаіл Міхайлавіч Джагараў, родам са Стаўропальшчыны, партызаніў на Міншчыне. Пасля вайны Беларусь для яго стала родным домам. Нядаўна ён ездзіў у Дэмакратычную Рэспубліку В'етнам.

—В'етнамцы добра ведаюць пра Беларусь, пра яе гераічную барацьбу супраць нямецкіх захопнікаў, — гаворыць Міхаіл Міхайлавіч. — Нам казалі, што вопыт беларускіх партызан выкарыстоўваюць патрыёты Паўднёвага В'етнама.

Ён расказаў пра шматлікія сустрэчы з працоўнымі гераічнай краіны, яе байцамі, пра незлічоныя бедствы, якія прынеслі рэспубліцы амерыканскія імперыялісты, пра волю в'етнамцаў да перамогі.

— У адным з музеяў Гаваны, — гаворыць Валянцін Аляксандравіч Чарняцоў, — я раптам убачыў фотаздымак вылічальных машын, якія выпускае наш Мінскі завод. Было вельмі радасна ад гэтай нечаканай сустрэчы.

У мінулым годзе В. Чарняцоў зрабіў падарожжа вакол зямлі на самым дасканалым і вялікім савецкім навукова-даследчым караблі «Касманаўт Юрый Гагарын», які быў абсталяваны камп'ютэрамі мінскай вытворчасці.

— Магу засведчыць,—сказаў В. Чарняцоў.—Нашы машыны ні разу не падвялі і заслужылі самую высокую ацэнку.

БЫЛОГА беларускага партызана запрашаюць да сябе гераічныя в'етнамцы... Мінскімі вылічальнымі машынамі абсталяваны самы дасканалы акіянскі навукова-даследчы карабель... У беларускую вёску Верцялішкі едуць па вопыт госці з-за мяжы... Мінскія аўтамабілі бягуць па дарогах сарака пяці краін...

Усё гэта можна было вынесці ў эпіграф да нашай сённяшняй справаздачы. Хаця, вядома, ніякай сенсацыі тут няма. Звычайныя будні рэспублікі. А ўсё ж падумаеш і скажаш: «Здорава! Далёка сягнула наша родная Беларусь!»

М. ЗАМСКІ.

Генадзь БУРАЎКІН

# ЭМБЛЕМА СТАГОДДЗЯ

*Слова беларуса пра Ленінград*









ЁСЦЬ на зямлі гарады, якія любяць і ведаюць усе, да якіх імкнуцца з самых далёкіх паралелей і мерыдыянаў, у якія вераць, як у юнацкую падзею. Ёсць гарады, без якіх немагчыма ўявіць сабе жыццё, без якіх асірацелі б не толькі геаграфічныя карты, а і людскія душы і збяднела б і паблякла сама гісторыя... Сярод іх абавязкова — Ленінград. Мужны, строгі, велічны...

Мне здаецца, што калі б давалося выбіраць своеасаблівую эмблему дваццатага стагоддзя, вельмі многія назвалі б сілуэт «Аўроры». У туманах нашага тлумнага індустрыяльнага веку старэнькі крэйсер на спакойных хвалях Нявы стаіць пільным вартавым і разумным лоцманам. Не помніць пра яго немагчыма, не разумець, куды нацэлены яго маўклівыя, пафарбаваныя юнымі нахімаўцамі гарматы — недаравальна. Ён стаіць сціпла і проста, прыткнуўшыся да гранітных берагоў і захаваўшы ў сваіх каютах золкі і ачышчальны вецер восені 1917 года. Нацэлены яго гарматы ў несправядлівасць, прыгнёт і коснасць. Каб убачыць яго, не трэба задзіраць высока галаву, нібы перад вядомай статуяй Свабоды, у чыгунным факеле якой так і не можа загарэцца агонь праўды і мудрасці. Ён «зямны», наш легендарны крэйсер, — да яго можна прыходзіць на сустрэчу, як да жывога чалавека... Калі я стаю на неўскім беразе, насупраць знаёмай са школьных падручнікаў «Аўроры», мне заўсёды хочацца на імгненне заплюшчыць вочы — і адчуць на сваіх шчоках паспешлівы дотык стужак матроскіх бесказырак і пачуць імклівыя крокі таго вялікага і простага чалавека, чыім імем названы гэты горад з граніту і славы.

Ленінград мне здаецца непаўторнай школай, дзе кожная вуліца, кожны дом — своеасаблівы клас. І самы дарагі, самы галоўны настаўнік у гэтай школе — усмешлівы, засяроджаны, у нецярпліва расшпіленым паліто, з заціснутай у руцэ кепкай Ільіч. Я добра ўяўляю яго на петраградскіх вуліцах, у халодных калідорах Смольнага поўным невыказнага рэвалюцыйнага энтузіязму і бяссоннай заклапочанасці. Пакойчык, дзе стаяць два просценькія ложкі, па-салдацку запраўленыя тонкімі коўдрамі, мне здаецца самым лепшым і самым яскравым помнікам чалавечай сціпласці і бязмежнай адданасці справе. Так, краіна была тады жахліва беднай. Але яна знайшла б для свайго правадыра і прасторны дом, і цёплыя коўдры. Толькі яны яму былі не патрэбны. Ён аддаў Рэвалюцыі, народу без астатку ўвесь свой волатаўскі розум, увесь свой талент геніяльнага дзяржаўнага дзеяча і тэарэтыка, не патрабуючы нічога ўзамен. Яму не было часу думаць пра ўласны дабрабыт — ён дбаў аб шчасці народа. Два ложкі. Два просценькія крэслы каля іх... Уладзіміру Ільічу і Надзеі Канстанцінаўне гэтага хапала. Бо было яшчэ адно, чаго не вымераеш ніякімі матэрыяльнымі атрыбутамі, — любоў народная... Калі б гэта было магчыма, я прыводзіў бы ў гэты «клас» кожнага, хто ўступае ў партыю камуністаў, і пакідаў бы яго хоць на пяць хвілін сам-насам з гісторыяй, з добразычлівым і строгім прыжмурам Ільічовых чыстых вачэй...

Каменная памяць Ленінграда спрасавала ў сабе і паклала пад асфальт сённяшніх праспектаў і плошчаў адгалоскі і гукі розных часоў. Разбудзі толькі іх усхваляваным сэрцам — і ты пачуеш і дыктатарскі рып батфортаў Пятра Першага, і лёгкі бег пушкінскай карэты, і цяжкі крок царскіх салдафонаў, і прыглушаную песню вязняў петрапаўлаўскіх казематаў. А потым данясуцца зусім зблізу галасы рабочых дэманстрацый, цокат і стрэлы жандарскіх эскадронаў, рашучы гаспадарскі поступ кранштацкіх матросаў... І тады ўсплыве перад вачыма Піцер, на які, стаіўшы прывычнае спакойнае дыханне, з невыказным захапленнем і непрытоенай надзеяй азірнулася чалавецтва...

Я не люблю ездзіць па Ленінградзе. Гэта горад, па якім трэба хадзіць пешшу, узіраючыся ў вуліцы і завулачкі, спыняючыся на мастах і ў парках. Тады радасна і нечакана пачнеш пазнаваць яго, як сябра, з якім даўно не бачыўся. І гідам тваім стане не прыветлівы малады ленінградзец, а іранічны Мікалай Васільевіч Гогаль ці маўклівы Фёдар Міхайлавіч Дастаеўскі. І не вячэрні цень мільгане ў старым двары, а ціха прашмыгне няшчасны Башмачкін ці няспешна пранясе сваю збалелую душу Алёша Карамазаў. Яны нарадзіліся тут і ў вялікі свет панеслі не толькі свой складаны лёс і свой жорсткі час, а і паветра, гукі гэтых вуліц, іх цішыню і таямнічасць. На Сеннай плошчы зноў сціснецца сэрца ад някрасаўскіх радкоў пра маладую сялянку, якую люта білі бізуном. А на Чорнай рэчцы, дзе амаль паўтары сотні год назад упаў сваёй кучаравай галавой у халодны снег вялікі Пушкін, зразумееш усю непазбежнасць бессмяротнасці чалавечага розуму і таленту...

І яшчэ кожны беларус не забудзе зайсці на Васільеўскі востраў, да старога дома, на якім, нібы паштоўка з даўніх гадоў, бялее мемарыяльная дошка з высечаным на ёй імем Янкі Купалы. Тут жыў вялікі паэт, вечарамі чытаў сябрам свае гнеўныя і тужлівыя вершы, начамі сніў родную Беларусь, днямі вучыўся розуму і рэвалюцыйнаму гарту. Піцерскія рабочыя набіралі і друкавалі ягоную «Жалейку» і па-братэрску падзялілі з беларускім песняром рашучую «рэцэнзію» графа Галавіна: «...привлечь к законной ответственности... виноватых в напечатовании... наложить на книгу арест...»

Шмат помняць, шмат могуць расказаць камні Ленінграда. Але не менш ведае і ленінградская трава, тая, якой чакалі нібы збавення блакаднай зімою, тая, што маўчыць сёння на Піскароўскіх могілках. Войны заўсёды пакідаюць пасля сябе магілы. Але такіх, як у Ленінградзе, свет наўрад ці ведаў. Доўгія равы, жахліва доўгія і глыбокія. І ні імёнаў, ні нават лічбаў. Толькі гады: «1942», «1943»... Нібы навек пахаваны цэлыя гады жыцця горада, пахаваны разам з людзьмі — сівымі, маладымі, зусім юнымі. І — жудасны летапіс Тані Савічавай, летапіс смерцяў... І цішыня... Толькі горад бяспрыкладнай мужнасці, які знае неаплатную цану ахвяр, які акамянеў у сваім горы і нязломнасці, мог так проста і мудра накрэсліць на сцяне гэтых маўклівых могілак: «Нічога не забыта, ніхто не забыты». Як жа ты колешся, ленінградская трава...

А жыццё ідзе. І ў гэтым яго неўміручасць, яго вялікі вышэйшы сэнс. Жыць! Жыць, памятаючы пра смерць і не баючыся яе. Жыць, як жыве пакутны і горды Ленінград. Ён не мог загінуць, ён не мог стаць на калені. Сама гісторыя, савецкі народ не дазволілі гэтага. І ён жыве, шырока раскінуўшы рукі прасторных праспектаў, дадаючы да свайго сусветнага вядомага партрэта яркія і ўпэўненыя сённяшнія штрыхі. Я люблю спыняцца перад карпусамі ленінградскіх заводаў, на фасадах якіх, нібы на грудзях ветэранаў, красуецца адразу паўдзесятка ордэнаў. Люблю стаяць каля іх у час перазменкі, калі з прахадной, спакойна несучы свае разумныя напрацаваныя рукі, выходзіць гвардыя яго Вялікасці рабочага класа краіны. Успамінаю тады высакавольтныя мачты з тоўстымі струнамі электраправадоў і магутныя турбіны Лукомльскай ДРЭС. Там, дзе нараджаецца самае яркае электрычнае сонца Беларусі, працуюць машыны з ленінградскай маркай. Вось і заглянула сонца і ў наша ваконца. І да гэтага самае непасрэднае дачыненне мае Ленінград — калыска Вялікай Рэвалюцыі...

Безумоўна, можна яшчэ многа і многа гаварыць пра гэты дзівосны горад, які некалі стаў акном у Еўропу і праз які зараз сотні заморскіх гасцей хочуць хоць трошкі зазірнуць у заўтрашні дзень зямлі, пра яго добрых душою і справамі людзей, пра яго спагаднасць і рашучасць, пра яго прыгажосць і непаўторнасць... Але, як немагчыма за дзень абысці Ленінград, так і немагчыма за адзін раз расказаць аб усім, што абуджае ў памяці і ў сэрцы ўжо даўно яго імя. Ён шчаслівы, горад-герой над Нявой. Бо там, дзе гучаць словы «Савецкі Саюз», «Рэвалюцыя», «Ленін», абавязкова ўспамінаюць яго. Бо ўсе глыбока і шчыра паважаюць і любяць яго. Бо стаў ён неабходным і сімвалічным для ўсёй зямлі. І прыходзяць да яго з самых далёкіх дарог не толькі палюбавацца ім, а і ўзяць урокі ў яго школе мужнасці, рэвалюцыйнасці, аптымізму. Такі ён, мой Ленінград. Наш Ленінград...

## ГОРАД — СЦЯГАНОСЕЦ РЭВАЛЮЦЫІ



Плошча У. І. Леніна каля Фінляндскага вакзала.



Вечарам на Марсавым полі.
Фота Н. НАУМЕНКАВА, І. БАРАНАВА (ЛенТАСС).

---

Мікалай БРАЎН

# СЯБРАМ

Палеткі, гаі і дубровы Расіі
Ўратаваў я ў бойках цяжкіх.
І росы Расіі мой шлях арасілі,
І мова Расіі на вуснах маіх.

Пяшчотаю поўніцца роднае слова
На роднай зямлі у маёй старане,
Калі Украіны напеўная мова
Радком «Заповіта» ляціць да мяне.

А золатаструнную арфу Тычыны,
Сасюры і Рыльскага звонкі напеў
Я знаў яшчэ ў дні маладой Украіны,
Калі ад чароўных іх песень смялеў.

Тады Тыцыян і Паола шумелі,
Як Грузіі горны, круты вадаспад.
І сябар Іраклій з дарог Руставелі
Гасцюе ў радках маіх рускіх, як брат.

Чаруюць мяне і Купала, і Колас,
За гэта бясконца удзячны я ім.
Расула Гамзатава блізкі мне голас
На горным аварскім гучанні сваім,

Радкі, нібы рукі, насустрач раскіну,
І клічуць у шчасную нашу пару,
У стэп у калмыцкі Давід Кугульцінаў
І Броўка — у родную Беларусь.

Сябрам не хачу гаварыць я: «Бывайце!..»
Са ўсёю сардэчнасцю хочацца мне
Цябе, мой Бажан, і цябе, Межэлайціс,
Цябе, мой Куліеў, сустрэць на Няве.

Якое застолле мы разам раскінем,
Спавітыя думай і марай адной!
Навекі народы з'яднала Расія.
Сяброў у Расіі — як зор нада мной.

Пераклаў А. ГРАЧАНІКАЎ.



Плошча Дзекабрыстаў.

Анатолій ЧАПУРОЎ

# «ДАРАГАЯ МАЙМУ СЭРЦУ...»

## *Слова ленінградца пра Беларусь*

ВЯЛІКІ Кастрычнік — вяшчальнік савецкай улады, братэрства і роўнасці людзей. За параўнальна кароткі гістарычны тэрмін на савецкай глебе вырасла дзівоснае дрэва народнай дружбы. У яго моцныя, трывалыя карэнні, магутны выпрабаваны ствол, вечназялёная крона.

Хто прыдумаў гэта цудоўнае параўнанне? Напэўна, аўтарства не належыць каму-небудзь аднаму, яно агульнае, усенароднае. Рускія і казахі, узбекі і ўкраінцы, беларусы і літоўцы, эстонцы і грузіны, — усе, усе народы Савецкага Саюза, адчуўшы небывалую сілу яднання і росквіту на вечныя часы, выказалі гэтую гордасць сваю ў эпічным вобразе Дрэва Дружбы.

Шумяць яго галінкі, па-весноваму моцныя, светлыя. У шматмоўнай гаворцы іх я распазнаю беларускую. Яна дарагая майму сэрцу з даўніх часоў, з тае пары, калі я ўпершыню паспрабаваў перадаць яе праз родную рускую мову.

Дзесяткамі год вымяраюцца сувязі ленінградцаў з літаратарамі Беларусі. Мацнее і развіваецца наша пісьменніцкая дружба, якая паглыбляецца карэннямі ў далёкае мінулае. Лепшыя прадстаўнікі беларускага народа і горада на Няве сталі ля яе вытокаў.

Асабліва раскрылася гэтая дружба, хвалюючая ў праявах братэрскіх пачуццяў і значная па сваёй дзелавой, канкрэтнай сутнасці, у цяжкі пасляваенны час. У вачах людзей не згасла зарыва Вялікай Айчыннай, яшчэ свежыя былі шрамы і раны на абліччы зямлі, а вядомыя паэты Беларусі і Ленінграда працавалі над паэтычнай анталогіяй на рускай мове, якая выйшла ў 1948 годзе пад рэдакцыяй Браўна, Броўкі, Глебкі, Коласа, Пракоф'ева.

У нашым горадзе і пры актыўным удзеле ленінградскіх перакладчыкаў убачылі свет многія кнігі беларускіх аўтараў, арыгінальныя і калектыўныя.

Сёлетнім летам і зусім нядаўна, у канцы лістапада, на неўскіх берагах мы святкавалі 90-годдзе з дня нараджэння народных паэтаў Беларусі Янкі Купалы і Якуба Коласа.

Нарадзіўшыся ў адзін год, ступіўшы адначасова на літаратурную арэну, яны заўсёды былі разам, побач, і з першых крокаў сваёй дзейнасці былі звязаны з нашым горадам. І характэрна тое, што свята іх неўміручасці горад Леніна, горад Кастрычніка адзначаў на парозе паўвекавога юбілею ўтварэння СССР.

Купала і Колас — пачынальнікі новай беларускай літаратуры. Яны сталі сцягам у яе руху і росквіце.

А якія выдатныя майстрымастакі працуюць на беларускай арэне савецкай літаратуры цяпер! Без перабольшання можна сказаць, што ўсе яе жанры багатыя на творы яркія і непаўторныя.

Асабліва багатая паэзія беларусаў. Як вялікія рэкі пачыналіся з раўчукоў, так і яна выйшла з глыбінь народнай творчасці і засталася вернай традыцыі, захаваўшы прыродную самацветнасць слова і песеннае яго гучанне.

На гэтую акалічнасць аднойчы звярнуў увагу наш Аляксандр Пракоф'еў.

Яму я ў многім абавязаны сваёй любоўю да беларускай паэзіі. Як выдатны нацыянальны паэт, ён вострым вокам і чулай душою ўбачыў і адчуў раней за іншых, наколькі самабытная і цудоўная паэзія брацкага народа. Ён першым паклаў перада мною вершы беларускага паэта і сказаў: «Перакладзі, прынясуць радасць...». Ён пазнаёміў мяне асабіста з Броўкам, Глебкам, Танкам, Куляшовым, Лужаніным... Ён браў мяне ў паездкі па беларускай зямлі, і я назаўжды палюбіў яе зялёныя дубровы і пушчы, блакітны лён і жытнёвыя хвалі палёў, прасякнуўся вялікай павагай да дабрыні і шчырасці яе працаўнікоў

Цяпер Пракоф'ева няма з намі. Але яго гарачае дыханне жыве ў непарушнай дружбе нашых літаратур. Працягваецца пачатая ім справа.

У купалаўскія дні было вырашана ажыццявіць сіламі ленінградцаў новае анталагічнае выданне беларускай паэзіі. А беларусы ў сваю чаргу падрыхтуюць і выпусцяць у свет кнігу паэтаў Ленінграда.

Усё больш адчувальны подых вялікага свята. У думках я акідваю пяцідзесяцігадовае Дрэва Дружбы, чую радаснае шапаценне яго квітнеючых галінак і адчуваю, як у глыбіні душы нараджаецца новая песня, першы радок якой пачынаецца словамі — «Беларусь у сэрцы маім!»

Вячаслаў КУЗНЯЦОЎ

# ДАЎГАВА

Цячэ расплаўленаю лавай
Красуня гордая—Дзвіна.
Такая моц, такая слава
на ўсю рэспубліку адна.
Яна прыйшла дарогай доўгай
ў разліве песеннай душы,
па праву ёй,
сяброўкай Волгі,
так ганарацца латышы.

Завуць Даўгава. Хто ўгадае
па назве той,
чыя яна?
Яна ж таксама—дар Валдая,
з Расіі ў свет імкне Дзвіна!
Бяжыць у засені каліны
рачулкай—пераступіць
гусь...

Яе калыша на раўнінах
сястра Расіі—
Беларусь.
І, напаіўшы цуд-вадою
сваіх азёраў і крыніц,
яе—
прыгожай, маладою —
нясе да Латвіі граніц.
У ёй—
багацце наша,
слава,
і мары, што крыштальней
рос.
Рака братэрства—Даўгава
з'яднала трох народаў лёс.

Пераклаў Ан. ШАУНЯ.



**ГОРАД ВЫДАТНАГА МАСТАЦТВА**



Тэатр оперы і балета імя С. М. Кірава. Жызель — народная артыстка СССР І. Калпакова.
Фота П. ФЯДОТАВА.



«Рэвізор» М. В. Гогаля на сцэне Акадэмічнага Вялікага драматычнага тэатра імя А. М. Горкага.
Фота М. ВЛАХІНА (ЛенТАСС).



Акадэмічны тэатр драмы імя А. С. Пушкіна. Артыст Ю. Радзіонаў у ролі Пушкіна (спектакль «Болдзінская восень»).
Фота З. БАЙЦУРАВА, Н. НАУМЕНКАВА. (ЛенТАСС).

Мікалай КУТАЎ

# МАІМ РАВЕСНІКАМ

Па дваццаць год было ім усяго.
І хоць нямнога зведалі ў жыцці,
Хапіла часу ўсё ж ім для таго,
Каб у бяссмерце юнымі ўвайсці.

І часу ім хапіла, каб прыкрыць
Расію ад прыцэльнага агню.
І часу ім хапіла, каб прабіць
Таўшчэзную, магутную браню.

І часу ім хапіла для таго,
Каб смерць паслаць пірату-караблю.
Ды не хапіла, пэўна, аднаго
Імгнення, каб сказаць— цябе люблю.

Пакінута нямала за сабой.
І не пераступіць ім той мяжы
За безыменнай ўзятай вышынёй,
За боем на апошнім рубяжы.

Прабеглі шпарка новыя гады,
Іх справы перадаўшы маладым.
Паўсталі над зямлёю гарады,
Бялеюць буйнай квеценню сады.

Свідруюць зоркалёты неба сінь.
Ды зноўку за бар'ерамі смярцей
Шляхі маіх равеснікаў усіх
Сышліся з лёсам маладых людзей.

Пераклаў І. МАРКЕВІЧ.

---

Яўгеній ВІСТУНОЎ,

наместнік рэдактара газеты «Вечерний Ленинград»

# КАЛІ ВЫ ПРЫЕДЗЕЦЕ Ў ГОСЦІ...









СЁЛЕТА ў Ленінградзе было шмат гасцей з усіх саюзных рэспублік, з самых далёкіх куткоў нашай неабсяжнай Радзімы. І гэта не дзіўна. У перадгісторыі і самой гісторыі ўтварэння першай у свеце сацыялістычнай садружнасці многіх народаў і народнасцей, якія аб'ядналіся ў 1922 годзе ў СССР, Ленінграду выпала значнае месца. Поўныя глыбокага сэнсу і аб'ектыўнай ацэнкі словы ленінградскага паэта Міхаіла Дудзіна, які сказаў пра горад на Няве: «Тут кожны камень — сам летапіс». Застаецца дадаць: рэвалюцыйны, баявы і працоўны летапіс.

Так, тут кожны камень, кожная старая вуліца, завод, фабрыка — сведкі і непасрэдныя ўдзельнікі трох рускіх рэвалюцый. Тут, у былой сталіцы царскай манархіі, зусім побач з вяльможнымі палацамі, нараджаліся першыя ў Расіі марксісцкія гурткі. Тут, у горадзе вернападданых расійскаму самаўладству чыноўнікаў, рабочыя правялі першую ў Расіі маёўку. Тут, на галоўнай магістралі царскай сталіцы—Неўскім праспекце, зноў жа ўпершыню ў Расійскай імперыі, як выклік ненавіснаму царызму, вясной 1904 года прагучаў «Інтэрнацыянал», рускі тэкст якога па заданню Леніна быў развучаны рабочымі Неўскай заставы. І тут жа грымнуў выбух «Аўроры», пасля якога грозныя дзесяць дзён Кастрычніка ўзрушылі свет.

Так, на кожным кроку тут яркае сведчанне адзінства і дружбы народаў СССР, іх гістарычна абумоўленага братэрства, салідарнасці, стагоддзямі падрыхтаванага аб'яднання ў непарушную шматнацыянальную сям'ю. Добрыя прыкметы гэтага братэрства, яго дабратворнага ўплыву на развіццё эканомікі ўсіх нашых рэспублік, іх навукі, культуры і мастацтва вы можаце знайсці ў Ленінградзе літаральна на кожным кроку.

У дні, калі над краінай яшчэ шугала полымя грамадзянскай вайны, Уладзімір Ільіч, выступаючы на VIII з'ездзе партыі, сказаў: «Калі б мы маглі даць заўтра 100 тысяч першакласных трактароў, забяспечыць іх бензінам, забяспечыць іх машыністамі... то сярэдні селянін сказаў бы: «Я за камунію».

Рабочыя «Чырвонага пуцілаўца» (цяпер Кіраўскага завода) першымі ў краіне пачалі ажыццяўляць ленінскі наказ. У цэхах гэтага прадпрыемства ствараліся першыя айчынныя трактары, прапашнікі-універсалы для апрацоўкі баваўняных палёў, машыны У-3 на гусенічным ходзе.

Цяпер Кіраўскі завод — далёка не адзіны ў кароне славы айчыннага трактарабудавання. Не менш вядомыя ў краіне і за мяжой мінскія, харкаўскія, волгаградскія, уладзімірскія і іншыя трактары. Асваенне іх выпуску — прамы вынік развіцця эканомікі ўсіх братніх рэспублік, агульны клопат усіх савецкіх народаў аб росквіце Радзімы. У нашы дні гэты агульны клопат знаходзіць яркае выяўленне ў тым, што, як на Кіраўскім заводзе, так і на Мінскім трактарным, поплеч працуюць рускія і беларусы, украінцы і татары, армяне і казахі... У тым, што Беларусь шле ў Ленінград электронна-вылічальныя машыны і тэлевізары, хімічнае валакно і вагоны, а горад на Няве ў Беларусь — станкі і дакладныя прыборы, турбагенератары, розныя агрэгаты, праекты новых прадпрыемстваў.

Калі вы прыедзеце ў Ленінград, пройдзеце па яго набярэжных і праспектах, пабываеце ў тэатрах і музеях, ён адкрые вам цікавыя старонкі старых і новых эканамічных, культурных, навуковых сувязей Ленінграда і Беларусі, старонкі найглыбейшай павагі ленінградцаў да памяці слаўных сыноў беларускага народа.

Бязвусым вясёлым хлапчуком прыехаў у Ленінград Фядос Смалячкоў. Вучыўся тут у школе фзн, стаў мулярам, будаваў дамы на Выбаргскай старане і Маскоўскім праспекце. У яго была самая мірная прафесія, але ён стаў салдатам, калі вораг напаў на нашу Радзіму. Стаў па загаду сэрца, грамадзянскага абавязку.

Ён абараняў горад, які будаваў. На ленінградскай зямлі ён абараняў і ўсю краіну, і родную Беларусь. Ён загінуў, але, як помнік яму, засталіся стаяць пабудаваныя ім дамы. Як вечны помнік мужнасці і гераізму юнага воіна, ёсць у Ленінградзе вуліца, што носіць яго імя.

Пабывайце на гэтай вуліцы, здыміце шапку перад мемарыяльнай дошкай, устаноўленай на будынку, дзе вучыўся Фядос, і вы нібы далучыцеся да подзвігу гераічных абаронцаў горада Леніна. І ў вашых сэрцах балюча адгукнецца і гук званоў беларускай Хатыні, і шчымлівая цішыня Піскароўскіх могілак. І ў гэтыя хвіліны вы яшчэ раз нібыта ўбачыце Беларусь у Ленінградзе, а Ленінград у Беларусі.

Убачыце маладога Янку Купалу, які прыехаў у 1909 годзе ў Пецярбург, паводле яго слоў, «бліжэй пазнаёміцца з рускім літаратурным жыццём, павучыцца». І ён вучыўся тут— адначасова на агульнаадукацыйных курсах Чарняева і ў такіх майстроў мастацкага слова, як М. Горкі, В. Брусаў, якія сталі першымі перакладчыкамі твораў Купалы на рускую мову.

Тут жа, у Пецярбурзе, у беларускім выдавецтве-таварыстве з сімвалічнай назвай «Загляне сонца і ў наша ваконца» выйшла першая кніга паэта — «Жалейка».

У Ленінградскім дзяржаўным гістарычным архіве да гэтага часу захоўваецца дакумент — лепшая характарыстыка гэтай кнігі, непахіснай рашучасці паэта змагацца за свабоду і шчасце свайго шматпакутнага народа.

«У С-Пецярбургскі Камітэт па справах друку паступіла брашура на беларускай гаворцы (надрукаваная рускім шрыфтом) пад загалоўкам «Жалейка» («Дудачка») Янкі Купалы... Ва ўсіх творах Янкі Купалы (за выключэннем некалькіх перакладных) апісваецца цяжкае, поўнае нястач і працы жыццё беларускага селяніна, беспрасветная праца і разам з тым хранічнае недаяданне, хвароба, холад, адным словам, непазбыўная галеча — вось асноўная нота, якая ўладарна гучыць у вершах Купалы...

...Паведамляючы аб гэтым, Камітэт мае гонар пакорліва прасіць Ваша правасхадзіцельства ўзбудзіць судовае праследванне аўтара брашуры Янкі Купалы (звестак аб ім у Камітэце няма), а таксама супраць іншых асоб, якія могуць аказацца вінаватымі па гэтай справе».

Беларусь у Ленінградзе, Ленінград у Беларусі...

На вуліцы Зодчага Росі вашу ўвагу прыцягне не толькі выдатны помнік архітэктуры мінулага, але і балетная музыка, якая льецца з вокнаў аднаго з іх. Славутае на ўвесь свет харэаграфічнае вучылішча імя Ваганавай мае непасрэдныя адносіны да створанага ў 1933 годзе Беларускага Вялікага тэатра оперы і балета. На яго сцэне мінчане ўбачылі першы нацыянальны балет «Салавей», пастаўлены выпускніком вучылішча імя Ваганавай Аляксеем Ермалаевым, будучым народным артыстам БССР, першую пастаноўку «Лебядзінага возера», ажыццёўленую таксама выхаванцам вучылішча Канстанцінам Мулерам, будучым заслужаным дзеячом мастацтваў БССР.

У рэпетыцыйных залах вучылішча шліфавалі сваё майстэрства многія танцоўшчыкі і танцоўшчыцы, якія сталі гонарам беларускай балетнай сцэны — Зінаіда Васільева, Аляўціна Карзянкова, Ірына Савельева і іншыя.

На Кіраўскім праспекце, крыху ў глыбіні ад шматлюднай магістралі, стаіць будынак, на шыльдзе якога знаёмае вам слова — «Ленфільм». Пабываўшы тут, скажам, 35—40 год назад, вы б аказаліся ў сям'і кінематаграфістаў, вядомых вам па многіх нацыянальных беларускіх фільмах. Гэта бацькоўскі дом, калыска «Белдзяржкіно»— цяперашняга «Беларусьфільма».

Творчыя сувязі і па сённяшні дзень моцна звязваюць нашы студыі. Беларускія акцёры здымаюцца на «Ленфільме», ленінградскія—на «Беларусьфільме». Вучні вучацца ў былых настаўнікаў, настаўнікі — у стаўшых сталымі майстрамі вучняў.

Такім чынам, вы можаце сустрэцца ў Ленінградзе з Беларуссю, куды б вы ні пайшлі.

У Доме пісьменнікаў імя Маякоўскага на чарговым вечары паэтаў вы пачуеце знаёмыя паэтычныя радкі. Гэта гучаць вершы беларускіх паэтаў, перакладзеныя на рускую мову ленінградскімі паэтамі Усеваладам Раждзественскім, Браніславам Кежуном, Пятром Журам, Паўлам Кабраковым і многімі іншымі.

У Ленінградзе вы маеце магчымасць зрабіць своеасаблівае падарожжа і ў гісторыю свайго народа, убачыць тое, чаго не знойдзеце нідзе ў хатах цяперашняй «глухой» вёскі. Гаворка ідзе аб багацейшых экспазіцыях, сабраных у залах Этнаграфічнага музея народаў СССР. Ёсць тут экспазіцыя, якая расказвае аб XIX і пачатку XX стагоддзя на Беларусі.

Ленінградцы заўсёды рады сустрэць сваіх беларускіх сяброў.

Як з радасцю сустракалі сёлета пісьменнікаў з Беларусі, што прыехалі разам з ленінградцамі адзначыць 90-годдзе з дня нараджэння Янкі Купалы, а крыху пазней — 90-годдзе Якуба Коласа.

Як сустракалі прадстаўнікоў беларускага кінамастацтва, якія гасцілі ў нашым горадзе з выпадку фестывалю фільмаў пятнаццаці братніх рэспублік і паказалі нам лепшыя стужкі «Беларусьфільма».

Як сустракалі і сустрэнуць кожнага з вас заўсёды.

---

ГОРАД



Фота В. ГАЛУБОЎСКАГА (ЛенТАСС).

ВЕЛІЧНАЙ



Фота В. РАМАНАВА (ЛенТАСС).

АРХІТЭКТУРЫ

# МАЗАІКА АДНАГО ЛЁСУ

Алег ШАСЦІНСКІ

## ЗАМЕСТ УСТУПУ

У зімовы снежны дзень у тэатры, што на Каменным востраве, ушаноўвалі Барыса Васільевіча Клема яго паплечнікі і равеснікі, партыйныя работнікі, людзі мастацтва...

Мінула пяцьдзесят гадоў з таго дня, як худзенькі віхрасты хлапчук стаў рабочым Семяніхоўскага завода, цяпер Неўскага машынабудаўнічага імя У. І. Леніна.

Перад сцэнай, за столікамі, сядзелі тыя, хто прыйшоў на свята, і сярод іх Вольга Бяргольц, Васілій Салаўёў-Сядой, народны артыст Аляксандр Барысаў...

Ля ўваходу ў залу, за шторай, хаваючыся ў цень ад юпітэраў (падрыхтавалася тэлебачанне), стаяў у парадным чорным касцюме ўсхваляваны юбіляр, збянтэжаны Барыс Васільевіч.

— Вы б адышлі, перашкаджаеце, — сказаў яму чалавек, што завіхаўся ля тэлевізійнай апаратуры.

— Дзе Клем? Не бачылі Клема? — прабег запыханы распарадчык.

— Я Клем...

— Барыс Васільевіч. Дзе ж вы! Усе чакаюць!

— Ды я стаю тут... — сумеўся ён.

**1**

Ён нарадзіўся за Неўскай заставай у 1903 годзе. Месцы вакол заставы не гарадскія, багна непралазная. Насупраць дома, дзе жыў Барыс,— балота. Бывае, конь загрузне — усім мірам выцягвалі. На вуліцы гразка, прайсці толькі па мастках і можна. Летам пылюка даймала — вазок праедзе, пыл за ім слупом стаіць, густы, уедлівы. З боку могілак птушыны грай — галкі, вароны, нават ястрабы мелі там прыстанак...

Сям'я ў Клемаў была вялікая: сыны, дочкі. Пакой здымалі цесны, мэбля ў ім таксама няхітрая: драўляны ложак, пафарбаваны куфар, шэсць венскіх крэсліцаў, камод. На тым адным ложку і спалі ўсе, поперак, падставіўшы пад ногі крэсліцы. У кватэры вадзілася плойма прусакоў. У Барыса сініца жыла, яна на прусакоў палявала, — зловіць, прыкончыць і за шпалеры хаваецца.

Пры бацьку яшчэ сяк-так перабіваліся. Бацька працаваў фармоўшчыкам на Семянікоўскім заводзе. Руку ён неяк параніў. Увагі не звярнуў, пакуль пухнуць не пачала. Заводскі фельчар трынаццаць надрэзаў зрабіў, «заразу выпушчаў». А потым з агульным заражэннем крыві павезлі бацьку ў бальніцу, там ён і памёр.

Усё легла на плечы маці. Брала яна на заводзе работу — рукавіцы шыла. Курыцца трохлінейная лямпа, дзеці сядзяць каля маці, памагаюць выварочваць рукавіцы на правы бок. Асабліва цяжка пальцы выварочваць — яны каляныя, з парусіны.

**2**

У 1911 годзе пайшоў Барыс у школу. Раніцай маці давала боты, а як вяртаўся — скідаў. Пяткі каменнымі зрабіліся, на пальцах цыпкі выступілі.

Дарога ў школу ішла полем. На тым полі капуста расла. Увосень школяры абломвалі прыхопленыя марозікам саладкаватыя капусныя храпкі. Замест цукерак іх елі.

Вучыўся Барыс добра. Вершы з першага чытання запамінаў, любую задачку рашаў. Асабліва здзівілася настаўніца, калі Барыс без запінкі «Барадзіно» прадэкламаваў, — а яна яго разы два толькі і прачытала ў класе.

... Дырэктар паклікаў Барыса, прапанаваў, як самаму здольнаму вучню, далей вучыцца на казённы кошт.

— Не, — сумна адказаў Барыс, — трэба матцы памагаць...

На тым і скончылася школа.

Ішоў 1915 год.

**3**

Трынаццаць гадоў хлопцу. Прыстроілі на табачны склад. Ад сухіх лісцяў стаяў у паветры густы пыл. Ад пылу кроў ішла з носу. Табачнікі (і жанчыны, і дзеці, якія на складзе працавалі)— усе чыста курылі. Лічылася, што табачны пыл не так моцна носаглотку вярэдзіць, калі курыш.

Неўзабаве з табачнага склада перайшоў Барыс у картузную майстэрню. Клеіў там пакеты, розную ўпакоўку. Працаваў ад васьмі да васьмі, як дарослы.

Падлеткі ў майстэрні былі хлопцы вясковыя. З гарадскімі не дружылі. Неяк усчалася вялікая бойка. Гаспадар зайшоў якраз у момант, калі братва адзін аднаго калашмаціла. Барыс на вочы гаспадару патрапіў, той пальцам падазваў:

— Валэндацца з вамі не буду. Першы на вочы патрапіў, табе і адказваць. Ты зволены...

Выйшаў Барыс з майстэрні, дамоў ісці боязна, — пападзе ад маці. Пашкандыбаў да брата, той працаваў у заводскай сталоўцы. Брат гаворыць:

— Пачакай, здаецца, у нас кухонны хлапчук патрэбен...

І сапраўды, патрэбен быў. Барыс уладзіўся ў сталоўку.

Новая бяда. На вялікдзень загадалі яму абысці з конаўкай наведвальнікаў сталоўкі, сабраць ахвяраванні, «на чай». Абышоў, сабраў, паставіў конаўку з грашыма ў хлебарэзцы. Пазней дырэктрыса залезла ў конаўку, а грошай у ёй няма.

— Дзе грошы?

— Я, ці што, іх узяў! — абурыўся Барыс.

— Калі і не ўзяў, дык дзёрзкі надта! Прэч са сталоўкі!..

...Грымнула Лютаўская рэвалюцыя. Запомнілася Барысу, як злавілі ненавіснага прыстава, завялі ў двор, паставілі да сценкі дома і застрэлілі; запомнілася, як сядзеў з сябрукамі на плошчы, а рабочыя на вуліцы спынялі конных гарадавых, сцягвалі з сёдлаў, раззбройвалі; запомніліся і павольныя густыя калоны: прыглушана гучыць музыка, на ўзнятых руках урачыста плывуць труны — прах тых, хто загінуў, пераносяць для пахавання на Марсава поле.

**4**

Пасля Лютага ўладкаваўся Барыс пасыльным у банку. Работа не цяжкая — насі, адно знай, паперы.

Паненкі з банка ласкавыя да яго былі. Іншы раз прасілі:

— Збегай, Барыска, купі нам рахат-лукума.

Ён бег у бліжэйшую кандытарскую, і паненкі яго потым частавалі.

Неяк ішоў Барыс пешака з банка і бачыць: каля Казанскага сабора ганяе вецер па бруку папяровыя грошы — тры асігнацыі на 13 рублёў. Падняў іх Барыс, паглядзеў вакол, пастаяў — ніхто не падыходзіць, не пытае. Заціснуў ён знаходку ў кулак, скочыў на «кілбасу» і паехаў па Неўскім. Ля гарадской Думы бачыць — ігрушы прадаюцца. Першы раз у жыцці пакаштаваў ігрушы — цэлы рубель заплаціў. Дамоў прыехаў, грошы матцы аддаў:

— Дванаццаць рублёў табе, а рубель на ігрушы аддаў.

— Нядобра, сынок, грошы ж чужыя.

— Ды я ж іх на бруку знайшоў, не кідаць жа было зноў на вецер...

Амаль год працаваў Барыс пасыльным. Да самага Кастрычніка.

Кастрычнік запомніўся яму пальбой на Стара-Неўскім. Спяшаўся Барыс у банк, а з дома насупраць, з-пад даху, лупянулі юнкеры з кулямётаў.

Тады, у расхінутых бушлатах, хаваючыся за выступы дамоў, атрад матросаў ірвануў у парадную...

Банк пасля рэвалюцыі закрылі.

І зноў Барыс, пятнаццацігадовы хлапчына, стаў думаць, як яму жыць далей.

**5**

Крута пачынаўся 1918 год: галодна ў Петраградзе, паліва няма, заводы сталі.

Выправіла маці Барыса з братам на Волхаў па бульбу. Паркалю дала ім, каб было на што мяняць. На дачным да Мгі даехалі, там саскочылі, пайшлі па рацэ ў вёску. Адліга прыспела, лёд паслаб, па калена ў вадзе цягнуліся. Але ў вёсцы пашанцавала: памянялі паркаль на паўтара пуда бульбы. Гнуцца пад хатулямі, але задаволеныя ідуць назад да вакзала.

Ля перона два чырвонаармейцы правяраюць білеты і дакументы. Угледзеліся некуды ўбок чырвонаармейцы, браты і шмыг паўз іх у вагон. Народу ў вагоне — не прадыхнуць. Толькі ад'ехалі, грозны голас:

— Вашы білеты!

Адвялі братоў разам з іншымі безбілетнікамі ў вагон для арыштаваных. Чырвонаармейцы хацелі было братоў ды дзвюх дзяўчат-сакатух выпусціць на Фарфораўскім, дзе цягнік спыніўся. Але бабкі-мяшэчніцы ўголас:

— Нас, старых, таксама выпускайце, а то зробім, што і саміх вас — пад суд!

Пасля такога вэрхалу нікога не выпусцілі. Як на перон выйшлі, Барыс у натоўп шуснуў, а брат адстаў. Давялося Барысу да яго вярнуцца.

Адвялі іх на Лігаўку, потым пад канвоем на работу ў горадзе. Начаваць — зноў на Лігаўку, у падвал. У сне Барыс чуе — торба ў яго варушыцца. Прачнуўся — паўторбы бульбы сцягнулі і конаўку.

Праз тры дні вызвалілі. Едуць браты дамоў на концы, вісяць на падножцы. На павароце торба аб слуп — хлоп, і пасыпалася на брук бульба. Пакуль да прыпынку даехалі ды назад беглі — усю бульбу прахожыя падабралі.

Дамоў кілаграмаў дзесяць усяго і прывезлі. Расказваюць пра свае прыгоды маці, яна плача і радуецца:

— Хоць самі жывыя!..

На вуліцы Елізарава да гэтага часу стары дом узвышаецца. Пад канец 1918 года адкрылі ў ім школу рабочай моладзі. Пачалі браты Клемы зноў вучыцца.

Барыс са школьнікамі першы раз трапіў у драматычны тэатр. Глядзеў «Разбойнікаў» Шылера. Доўга потым не мог супакоіцца, думаў, перажываў і верыў, што так яно, канечне, і напраўду было.

**6**

Павучыўся Барыс у школе паўтара гады і ў 1919 годзе паступіў на Семянікоўскі завод у разліковы аддзел пасыльным.

Аднойчы кліча яго галоўны бухгалтар.

(Заканчэнне на стар 8—9.)



Такія генератары выпускае завод «Электрасіла». Фота М. БЛАХІНА. (ЛенТАСС).

## ГОРАД ПРАЦОЎНАЙ СЛАВЫ



У адным з цэхаў Кіраўскага завода.



Металічны завод. Збіраецца турбіна для Лукомльскай ДРЭС. Фота М. БЛАХІНА і Н. ФЯДОТАВА. (ЛенТАСС).

# МАЗАІКА АДНАГО ЛЁСУ



(Заканчэнне. Пачатак на стар. 7).

— Хочаш у фзв, Барыс?

— Хачу.

— Ідзі, здавай экзамен.

Пачаў Барыс такарнай справай авалодваць. Час па-ранейшаму не песціў. Голадна, рамень туга зацягнуты. Пасярод цэха паставілі пліту. На яе сыпалі пясок, каб цяпло падолей захоўвалася. Бульбу ў гарачым пяску пеклі.

Увесну камуну арганізавалі. Ля цяперашняга металакамбіната ўзаралі плугам абложную зямлю, пасадзілі гародніну. Ураджай на славу ўдаўся.

У 1919 годзе ўступіў Барыс у камсамол.

Гэтыя гады асабліва дарагія Барысу Васільевічу. І не толькі таму, што супалі з юнацтвам яго, але і таму, што поўныя былі нейкага дзівоснага энтузіязму. Ён успамінае:

— На суботнікі, як на свята ішлі. Дзяцінства ж нашае ў беднасці праходзіла, таму і гарэлі на суботніках, разам усё памяняць хацелі. Надумалі стадыён пабудаваць. Людзей на яго будаўніцтва ўдвая больш сабралася, чым рыдлёвак мелі. Адзін у аднаго іх вырывалі...

Летам вучняў фзв адправілі адпачываць у Дзіцячае Сяло. Больш за ўсё ўразіла Барыса, што яму асобную пасцель далі, — дома да гэтага часу спалі ўсе радком на адным драўляным ложку.

## 7

У 1923 годзе Барыс Клем пачаў працаваць токарам у першым механічным цэху завода імя Леніна. Рабіў на рэвальверным станку балты, валікі... Нялёгка яны яму даваліся, першыя крокі: вопыту няма, а старыя токары не адкрываюць сваіх сакрэтаў, асцерагаюцца канкурэнцыі, як пры гаспадары прывыклі.

Поруч з Барысам працаваў стары майструга. Як толькі падыдзе Барыс да яго зірнуць на работу, ён станок выключае, праганяе. Пачаў Барыс здалёк непрыкметна прыглядацца, ды хіба ўбачыш так што-небудзь.

Але здарылася аднойчы — захварэў стары, паклалі ў бальніцу. Станок спыніўся, і ўся праца таксама спынілася. А рабіў стары важныя дэталі для паравоза, «крэйскопы» называюцца, ці па-простаму «кулакі». Гавораць тады Барысу:

— Давай, станавіся за станок.

Рызыкнуў, стаў. Тое-сёе ўсё ж такі прыкмеціў, як здалёк прыглядаўся, у нечым іншыя вопытныя рабочыя памаглі. І... не святыя ж гаршкі лепяць!—пайшла ў яго работа.

Неўзабаве надумаў адведаць старога ў бальніцы. Ляжыць той на белым, бародка ўверх тырчыць.

— Ну што, — гаворыць улагоджаны, — адпачывае мой станочак?

— Працуе.

— Хто на ім працуе?

— Ды я.

Проста на вачах стары змізарнеў.

— Ды вы не турбуйцеся, ачуняеце і зноў самі станеце...

Потым пасябравалі з гэтым старым, не адпускаў ён Барыса, калі яго на іншую работу пераводзілі.

## 8

У жалобныя зімовыя дні 1924 года па Ленінскім закліку ўступіў Барыс Клем у партыю бальшавікоў.

Вылучылі яго брыгадзірам. Працавала брыгада на маленькіх рэвальверных станках.

На ўсё жыццё запомніў сваю першую брыгаду.

Вось Іллюша Пятроў, «Ціхаход» мянушка яму была. Даецца, бывала, яму заданне балты тачыць. Сам Барыс чатырыста зробіць, а Ілья ледзь за другую сотню пераваліць.

Ды аднойчы моцна памог яму Ілья. Працаваў Барыс на рэвальверным, і блуза выпадкова трапіла ў станок. Пацягнуў станок Барыса.

— Ілья! Спыні!

Даў Ілья адваротны ход. Таварышы падскочылі, выключылі, прынеслі ад рымара нож, вырвалі спяцоўку, а ад яе адны шматкі засталіся.

Вось Міша Розаў, патомны токар. Гайкі ў брыгадзе тачыў. Да шасцісот за змену. Жаніўся ён позна, перад вайною, а ў самую блакаду дзіця ў яго нарадзілася. Усё ад сябе адрываў для жонкі і малога, і памёр у суровую зіму 1941-га.

Вось Міша Турлаеў, таксама з патомных токараў.

А яшчэ ў брыгадзе быў адзін забаўны чалавек. Ніхто яго па імю не зваў, а толькі па мянушцы — «Муж» ды «Муж». Ростам не выйшаў ён, жонка на дзве галавы за яго вышэйшая была. Выпіць ахвочы быў — жонка ў палучку ля прахадной сустракае, грошы адбярэ ды яшчэ адлупцуе, калі пах пачуе...

У 1925 годзе перапынілася заводскае жыццё Барыса, — прызвалі яго ў армію.

## 9

Служыў ён у Беларусі, непадалёк ад Віцебска. Чырвонаармейцам пры аэрадромнай часці. У яго абавязак уваходзіла: выкаціць самалёт з ангара, калі палёт прызначаны; закаціць назад у ангар пасля заканчэння палёту.

Службу нёс акуратна, і начальства ім было задаволена.

...У Віцебску пазнаёміўся ён з Фрузай, дзяўчынай з панчошнай фабрыкі. Пайшоў з ёй гуляць у прывакзальны сад. А там атракцыён — кольцы здалёк накідваюць на калкі, і, хто накіне, прыз атрымлівае.

Глазамер у Барыса дакладны, пачаў накідваць, гаспадар атракцыёна зблядНеў нават. Таму што выйграў Барыс адразу ж дзве бляшанкі кансерваў і шкатулку з белых ракавінак. Гаворыць гаспадар дрыготкім голасам:

— Вы, таварыш чырвонаармеец, пераапрануты эксцэнтрык, і я не магу больш вам дазволіць кольцы накідваць... У мяне дзеці...

Пасмяяліся яны з Фрузай і пайшлі ў кіно. А ў кіно таксама латарэя. Галоўны выйгрыш — бутэлька віна. Барыс у настроі быў, гаворыць:

— Глядзі, я зараз віно выйграю.

Бярэ тры білеты і (усё ў гэты дзень было падобна на цуд)... выйграе бутэльку віна. Ні ў якое кіно яны ўжо не пайшлі, а сядзелі ў садзе на лавачцы, віно пілі і расказвалі адно аднаму аб сабе, шчаслівыя і бесклапотныя...

Пасля арміі Барыс перапісваўся з Фрузай.

А праз год выйшла замуж Фруза за іншага.

## 10

У 1927 годзе дэмабілізаваўся Барыс Клем, прыехаў у Ленінград. Яшчэ беспрацоўе не знікла, хадзіў Барыс каля месяца на біржу працы, стараўся зноў папасці на Неўскі машынабудаўнічы. Нарэшце спатрэбіліся чорнарабочыя ў мадэльны цэх. Пайшоў не вагаючыся. Папрацаваў там нядоўга — вызвалілася месца сталявара ў ліцейным. Стаў сталяварам. Але ўсё ж марыў вярнуцца да сваёй любімай справы — на такарны. Нямала часу мінула з той пары, як пакінуў ён станок, і цяпер адольвалі яго сумненні — ці здолее працаваць на ім, ці не развучыўся. Стварылі на заводзе вячэрнія прафтэхнічныя курсы, і Барыс адным з першых запісаўся на іх. Удзень — сталявар, а ўвечары — зноў такарным майстэрствам авалодвае. Нечакана з'явілася вакансія ў яго родным першым механічным цэху. «Возьмеце?» — спытаў. Узялі. Спачатку на грубой рабоце стаяў: рабіў вінты, гайкі... У 1928 годзе пад пільным наглядам старых токараў вырабляў хадавыя колы для кранаў.

У 1930 годзе майстар прапанаваў перайсці на расточныя станкі ў змену да Давыдава.

Давыдаў майстругай-токарам лічыўся. Атрымалі яны з ім заказ — расточваць цыліндры для паравозаў. 60 цыліндраў растачылі, па 12 гадзін у суткі працавалі, без выхадных. Потым ужо Клем так у сутнасць работы ўвайшоў, што яны з Давыдавым як роўныя сталі. Бывала, Давыдаў паставіць цыліндр на расточку, не паспее кончыць за сваю змену, Барыс даканчвае. І наадварот.

Давыдаў справядліва ўсё рабіў, ніякай няпраўды не любіў. Ён і кажа аднойчы:

— Намахаўся ты, больш за мяне робіш. А іншую грубую работу — і ў два разы больш. Пішы заяву, каб нас разлічвалі нароўні.

А ў тыя дні заметка з'явілася ў «Ленинградской правде» пра ўраўнілаўку, пра тое, што рабочыя розных разрадаў аднолькавую зарплату маюць. Абмяркоўвалася гэта. Майстар і адрэзаў:

— Ніякага табе разліку нароўні.

— Дык жа сам Давыдаў узняў пытанне, — гаворыць Барыс.

— Давыдаў узняў, а газета пярэчыць.

Абурыўся Барыс — і да начальніка цэха. Клічуць майстра. Той зноў:

— Не магу іх раўняць, таму што заметка выйшла.

Начальнік цэха прапануе:

— Тады дай Клему разрад, роўны з Давыдавым.

— Не магу — надта малады.

— Тады Давыдаву ніжэйшы зрабі.

— Няма падстаў.

— Ну, добра, — спахмурнеў начальнік цэха, — пішы, Клем, заяву на маё імя.

Ён сам і падпісаў — «задаволіць».

А з Давыдавым Барыс душа ў душу працаваў разам да 1934 года, і быў Барыс адзначаны званнем «ударнік працы».

## 11

У 1928 годзе пашыў Барысу Саша Мяшкоў, армейскі сябрук і былы кравец, першы ў жыцці Барыса касцюм, цёмна-сіні, і ажаніўся Барыс з дзяўчынай, якую ведаў даўно, — у маленстве суседзямі былі.

Жонка ціхманая, худзенькая. Дзвюх дзяўчынак нарадзіла, першая хутка памерла, а другая расла, кемлівая і жвавая.

Пасля нараджэння другой дачкі пачала жонка чэзнуць. На лета ў вёску ездзіла, — не памагло.

У 1935 годзе зваліў Барыса грып, паклалі яго ў бальніцу. А ў жонкі ў гэты час абвастрэнне хваробы. Ды ўсё роўна хадзіла па магазінах. Прыносіла Барысу перадачы, прастойвала пад вокнамі бальніцы, каб пабачыць яго.

Перад Новым годам выпісаўся Барыс з бальніцы. Па дзве змены працаваў, план выцягваў. Жонка сказала:

— Ведаеш, пайду я да сястры Тасі, пажыву ў яе, пакуль ты заняты такі, а то сумна мне дома, ды і нядобрыцца. А яна мяне дагледзіць.

Гасціла яна ў сястры, раптам прыбягаюць па Барыса на завод:

— Кепска жонцы!

Прымчаў ён да Тасі, а жонка ляжыць на канапцы, цені пад вачыма, станчэла зусім. Укленчыў ён перад ёю, узяў на рукі маленькае яе, быццам высахлае, цельца і трымаў так, пакуль рукі не пачалі дранцвець. Апусціў яе, а яна ўздыхнула глыбока, усміхнулася нечакана:

— Жаніся, Барыс, на Надзейцы, калі памру...

Надзейка — суседка іх была, сяброўка жончына.

## 12

Пазней выйшла, як жонка яму перад смерцю гаварыла, — жаніўся ён, другі раз, на Надзі.

У 1936 годзе далі Барысу Васільевічу новы расточны станок і паставілі брыгадзірам.

Перад маем разгарнулася на заводзе спаборніцтва цэхаў. Цэх-пераможац атрымаў дзесяць пуцёвак на поўдзень, дзесяць — мясцовых і дзесяць тысяч рублёў. Добра гэтае спаборніцтва праходзіла — кожны спадзяваўся выйсці ў пераможцы.

На Першамай падвялі вынікі — і выявілася, што цэх, дзе Клем працаваў, на першым месцы.

Паехаў Клем у санаторый на поўдзень, у Ялту.

Поўдзень уразіў Барыса Васільевіча сонцам, пышнай зялёнінай, шумам Чорнага мора.

Але непакоіўся, як вяртаўся ў Ленінград. Як там яго брыгада?

А брыгада сапраўды сапсавала Клему настрой. Даручана ёй было вырабляць рэдуктары для паравозаў. У адсутнасць свайго брыгадзіра зрабілі яны рэдуктар за 72 гадзіны. Клем папракнуў:

— Барахло, хлопцы, а не тэмпы!

— Работа новая, не выпадае інакш, — адказваюць.

Разам з Клемам рабілі другі рэдуктар, за 36 гадзін зрабілі.

— І гэта барахло, — не дабрэе брыгадзір.

На трэці рэдуктар 24 гадзіны пайшло.

Барыс Васільевіч вырастаў у знаўцу сваёй справы, і натуральна, што адным з першых стаханаўцаў у цэху стаў ён.

## 13

22 чэрвеня 1941 года. Выдыхнуў рэпрадуктар:

— Вайна!..

Цвёрда крочылі атрады рабочых-апалчэнцаў.

Клема не ўзялі ні ў армію, ні ў апалчэнне. Дырэктар сам ездзіў у Смольны па бронь для Барыса Васільевіча, — ён заставаўся адзіным токарам-расточнікам на заводзе.

Пад канец 1941-га з-за недахопу электраэнергіі патухла на заводзе святло. Заціхлі станкі. Але рабочыя неслі ў цэхах дзяжурства. Паставілі ў цэху жароўню. Каля яе, захутаныя ў паліто і кажухі, сядзелі спецыялісты, рабочыя, рамеснікі. Прыносілі вугаль, палілі яго, потым вугаль кончыўся. Пайшлі на агонь скрыні, драўляныя варштаты. У застылай цішыні цэха час ад часу нехта валіўся, не падаўшы гуку, на падлогу; схіляліся да яго, а чалавек ужо мёртвы...

У снежні камандзіравалі Клема з таварышамі па вугаль на Іжорскі завод. Трэба было ім нагрузіць палову эшалона. Прыехалі яны ў Колпіна, пераначавалі ў пустым цэху, раніцай пачалі вугаль грузіць. Вугаль ляжыць у полі, вятрына вые, зацярушвае снегам. Рабочыя знясіленыя, на лапату вугаль не падымуць, поркаюцца саўкамі, — марудна грузяць.

Немцы заўважылі, мінамётны агонь адкрылі. Пацэліла міна ў дом, — бярвенні веерам паляцелі. Рабочыя залеглі, паўзком па лагчынках адыходзілі.

Пачалі па начах грузіць, у цемры, у сцюжу,— удзень немец не падпускаў да вугалю. Два тыдні грузілі, а ўсё-такі вугаль адправілі.

1 студзеня 1942 года прыйшла да Барыса Васільевіча жонка яго старэйшага брата Аляксандра.

— Прапаў Саша, — прашаптала.

За два дні да Новага года атрымаў Аляксандр на «Бальшавіку», дзе працаваў качагарам, талоны на 250 грамаў аліфы і на 5 кіло макухі. Склады на правым беразе Нявы, паплёўся ён туды з талонамі... і знік.

Пайшоў Барыс Васільевіч з братавай на пошукі.

У міліцыі адказалі, што сярод падабраных трупаў такога няма.

Выйшлі з міліцыі, мароз, сцюжа. Братавая ледзь на нагах стаіць — цяжарная яна была.

— Ідзі ты дамоў, а я на «Бальшавік» падамся,—сказаў Клем.

У аддзеле кадраў пачуў:

— Схадзіце ў паліклініку. На звышурочную мы яго не пакідалі.

Ідзе Клем, упадзе, падымецца, зноў упадзе, што далей, то цяжэй падымацца. Дашкандыбаў да паліклінікі на Троіцкім полі.

— Няма, — стомлена сказала жанчына ў даведачнай, — сярод нябожчыкаў такога няма...

Адчувае Клем, што да складаў на правым беразе не дайсці яму, сам вось-вось зваліцца ў сумёт. Дамоў рушыў, да лесвіцы дашкандыбаў, а падняцца не можа... Ледзь адолеў прыступкі.

А брат прапаў без весткі.

Клем разам з усімі выйшаў вуліцы ачышчаць. Слабы быў, снегу са жменю на лапату браў. Побач жанчына адна працавала, глядзіць на яго, галавой ківае — маўляў, не жылец. І калі праз сем гадоў выпадкова сустрэліся на вуліцы, адхіснулася спалохана, — ці не мроіцца ёй.

Паклалі Клема ў стацыянар пры заводзе. Ме-

сяц адлежаў. Памацнеў крыху. Кармілі там усё-такі неяк: хлеб, хоць рэдзенькі, ды супец, 50 грамаў віна.

...Нямецкія снарады вывелі са строю падстанцыю. І тады вырашылі на заводзе прыспасобіць для выпрацоўкі току... паравоз. Прыўзняць паравоз, колы будуць круціцца і круціць дынамік, а ён дасць ток. Клему даручылі рабіць поршневыя кольцы для цыліндра.

Калі паравоз ажыў і загарэлася ў цэху святло, уласнае, самаробнае, у Клема і яго сяброў было адчуванне сапраўднай перамогі.

**14**

15 красавіка 1942 года быў пушчаны ў горадзе першы трамвай. Сын Барыса Васільевіча, школьнік, аслабелы пасля галоднай зімы, 15 красавіка 1942 года выйшаў на вуліцу, заглядзеўся, трапіў пад гэты першы трамвай і загінуў.

**15**

3 чэрвеня 1942 года маці Барыса Васільевіча, якая таксама перанесла галодную зіму, не вытрымала і памёрла ціха, без слоў, толькі тры слязінкі выкаціліся з вачэй.

**16**

У ліпені 1942 года адправіў Барыс Васільевіч у эвакуацыю жонку з дачкой, а дні праз тры пайшоў на вакзал, думаў на разгрузцы вагонаў які-небудзь харч зарабіць. І даведаўся выпадкова, што на запасных пуцях усё яшчэ стаяць вагоны іх завода. Заспяшаўся што сілы. Вось за чыгуначнымі пуцямі паказаліся цяплушкі. Ідзе каля іх і бачыць дачку сваю, сядзіць яна ў вагоне на клунках. Заплакала, абдымае бацьку.

— Дзе мама?

— На вакзал па кіпяток пайшла.

Тут састаў загрукатаў і рушыў. Вырашыў Барыс Васільевіч ехаць разам з дачкой, быць з ёю, пакуль маці не дагоніць. На шчасце, цягнік прайшоў два кіламетры і зноў спыніўся. Адлегла ад сэрца ў Барыса Васільевіча. Заўважае ўдалечыні маленькую фігурку, запыханую, з растрэпанымі валасамі. Бяжыць жанчына да цягніка, вада ліецца з чайніка, з нейкім адчаем на твары бяжыць, з апошніх сіл. Жартачкі — тры дні стаяў састаў, а як пайшла па кіпяток, быццам чакаў гэтага імгнення — рушыў. Дабегла, схапілася за край вагона, толькі глядзіць на мужа з дачкой, нічога вымавіць не можа... Пабылі яны адно з адным яшчэ трохі і зноў развіталіся, абдымаючыся і не хаваючы слёз. Ці будзе яшчэ сустрэча ўперадзе?

**17**

Жыў Барыс Васільевіч на казармавым становішчы. Працавалі на заводзе па 12—16 гадзін у суткі. А калі канчалі працаваць за станком, бралі рабочыя вінтоўкі, патрулямі хадзілі па сваім раёне. Здаралася, у час бамбёжак лавілі ракетчыкаў, якія падавалі немцам сігналы. Паблізу завода пабудавалі агнявыя кропкі. Калі б вораг паспрабаваў уварвацца ў горад, у адной з іх заняў бы сваё месца Барыс Клем.

Хваробы пільнавалі Клема ўсю блакаду.

Схапіў запаленне лёгкіх. Як выкараскаўся, як выжыў — урачы не маглі даць рады.

У сакавіку 1943 года выявілася вадзянка — вынік дыстрафіі.

Выйшаў з бальніцы — заўважылі дактары каверны ў лёгкіх. Паклалі ў начны санаторый пры цэху.

Трохі падмацаваўся — прыступіў да работы. Праз некалькі дзён упала яму на нагу сталёвая балванка — зноў лёг у стацыянар.

Я пералічваю беды, што выпалі на долю Барыса Васільевіча не са слабасці сваёй да фактаў. Проста думаю — колькі вытрываў гэты чалавек і не аслаб духам.

У 1944 годзе завод прыступіў да вырабу першай мірнай прадукцыі — паветравыдзімальнай машыны. Прыслалі новыя станкі. Не маглі іх адразу асвоіць, заядала пры некаторых аперацыях, і Клем, як самы вопытны токар, бегаў ад станка да станка, памагаў наладжваць.

І зноў яму не пашанцавала — зламаў руку. Наклалі гіпс, загадалі ўрачы дома сядзець. Але як тут уседзіш, калі ніхто ў цэху яшчэ не асвоіў новы станок? І Клем заявіўся ў цэх, рука на тальмаху, у гіпсе. Спачатку ўсё словамі тлумачыў, потым, калі да галоўнага дайшло, не сцярпеў — узняўся па рабочай лесвічцы, адной рукой за парэнчы чапляецца, другую, у гіпсе, прыціскае і лезе, лезе ўгору...

**18**

Паслалі Барыса Васільевіча ў дом адпачынку на Каменны востраў.

А Барысу Васільевічу новы клопат не дае спакою. Ішоў 1944 год, эвакуіраваныя вярталіся ў Ленінград, але жонка пісала, што не можа прыехаць, бо не пускаюць яе з фабрыкі ў Бійску.

Якраз тым днём, калі Клем атрымліваў пуцёўку на заводзе, прыехаў намеснік міністра цяжкога машынабудавання. І пайшоў Клем проста да яго. Прыняў яго намеснік міністра. У Барыса Васільевіча рука ў гіпсе.

— Што з рукой?

Растлумачыў.

— Выходзіць, — сказаў намеснік міністра, — вытворчая траўма. Догляд патрэбен... — І загадаў даць «маланку», каб жонцы Клема дазволілі неадкладна выехаць у Ленінград.

**19**

У 1947 годзе Барыс Васільевіч, знаны майстар, быў камандзіраваны ў Маскву, — абменьвацца вопытам з маскоўскімі токарамі-расточнікамі.

Неўзабаве пасля вяртання ён адным з першых ужыў на заводзе хуткаснае фрэзераванне.

**20**

Вучням сваім Барыс Васільевіч — як бацька.

Першыя вучні яшчэ ў час вайны ў яго з'явіліся.

Прыслалі яму ў 1941 годзе на расточныя станкі дзвюх дзяўчат. «Слабенькія», — падумаў. Адна не вытрымала, пайшла з завода. Другая — Аня Пакроўская — тут да гэтага часу.

Прыйшоў у канцы вайны Алег Пятроў. Росту быў маленькага, у парусінавых боціках. Дужы не надта, за яго дэталь замацоўваць даводзілася. Барыс Васільевіч падкормліваў падлетка, шкадаваў. Пазней, калі Алег паехаў з Ленінграда, лісты слаў свайму настаўніку, пісаў як роднаму: «Я, дзядзечка Барыс, падрос, жаніўся»...

А Васем Вінаградавым Барыс Васільевіч асабліва ганарыўся: калісьці ў яго Вася ў вучнях хадзіў, а цяпер галоўны тэхнолаг на суседнім заводзе.

Разважае Барыс Васільевіч:

— Часам, бывае, вучыш, вучыш... Як садоўнік, жыццё на гэта кладзеш, чакаеш, што ж вырасце. А з-за недахопу кадраў не дадуць вучню дарасці да патрэбнага... Вось быў у мяне Ключнікаў Валерый. «Ну, як ён?» — пытаюць. «Будзе працаваць па-сапраўднаму», — адказваю. Пайшоў я ў адпачынак. А на нейкім участку заела — і бяруць майго Валерыя, яшчэ недавучанага, без кваліфікацыі, ставяць на стругальны станок. Не атрымліваецца ў яго, «паспець» яму яшчэ трошкі трэба. І заробкі, вядома, нікуды не вартыя ў яго пайшлі. Зволіўся Ключнікаў з завода, а мог жа хлопец як разгарнуцца!..

Самому Барысу Васільевічу не проста майстэрства давалася. Мабыць, таму шмат думаў ён заўсёды пра сваіх вучняў.

**21**

У 1957 годзе Барыс Васільевіч Клем стаў кавалерам ордэна Леніна.

**22**

Некалькі гадоў назад ехаў Барыс Васільевіч са Цхалтуба. Адпачынак там праводзіў. Час дазваляў і захацелася на суткі спыніцца ў Маскве, пабываць там-сям.

На другі дзень узяў білет на Ленінград, заходзіць у сваё купэ, а там нейкія два дзіўныя пасажыры, апрануты незвычайна і цыгары кураць. Адзін на цыгару паказвае — маўляў, можа перашкаджае? Барыс Васільевіч рукой махнуў — маўляў, курыце, мы і не такое бачылі. Высветлілася, спадарожнікі яго — амерыканцы. Адзін з іх па-руску так-сяк гаворыць. Як даведаліся, што едзе з імі савецкі рабочы, пытаннямі закідалі:

— Якое жытло?

— Двухпакаёвая кватэра, — адказвае Барыс Васільевіч.

— Адкуль едзеце?

— Адпачываў.

— Дзе?

— У Цхалтуба. На Каўказе...

Нарэшце той, што рускую мову ведаў, заўважае:

— Прабачайце, вядома, але вы не рабочы і ўсё, што сказалі, — прапаганда...

— Ды чаму ж прапаганда, калі ўсё так і ёсць! — абурыўся Клем.

— Тады ці не можам мы вас адведаць?

— Калі ласка.

— А калі?

— А калі хочаце.

— Можа, адразу як прыедзем? — гаворыць амерыканец, а сам здзекліва так усміхаецца.

Раззлавала Клема гэтая ўсмешачка, але стрымаўся ён:

— Можна і адразу, як прыедзем...

Выйшлі на перон утрох. Думае Барыс Васільевіч, непакоячыся: вось зараз прывязу гэтых настырных, а раптам дома непрыбрана і закускі добрай не знойдзецца — Надзя ж адна засталася, не рыхтавалася да прыёму гасцей.

Узялі машыну. Прыехалі. Жонкі дома не было, пайшла ўжо на працу. Але ўсё ў доме чыста і прыбрана, — можа, упершыню так узрадаваўся Барыс Васільевіч акуратнасці сваёй жонкі. Зазірнуў у халадзільнік: там малако, яйкі, бутэлька партвейна «Кокур». Пасадзіў ён гасцей за стол, а сам кухарыць: першая яешня што трэба атрымалася, ён яе падаў старэйшаму амерыканцу, які па-руску не гаварыў. І віно, і малако ў ход пайшлі. Старэйшы вымае з кішэні размоўнік, гартае і гаворыць:

— За мір і дружбу!

А маладзейшы сказаў потым:

— Вы нам даруйце, што мы не дужа далікатныя, але вельмі нам цікава ведаць, як савецкі рабочы жыве... Вып'ем за ваш добры і прыгожы дом!

Тут гаспадар успомніў, што ў яго салёныя грыбкі прызапашаны. Грыбкі, паміж іншым, дарэчы прыйшліся...

**23**

Летам 1969 года Барыс Васільевіч пайшоў на пенсію.

Нядаўна кінахроніка здымала ў Палацы працы свята пасвячэння ў рабочы клас.

Ветэраны піцерскай гвардыі ўручалі маладым рабочым інструменты — такарныя, слясарныя...

Потым Барыс Васільевіч паказваў сваё майстэрства.

— Ведаеш, — сказаў ён мне, — устаў я за станок і такую асалоду адчуваю, нібы ў тэатры ад добрай п'есы...

Яму ідзе 67-ы год. Ён прамы ў спіне, валасы рудаватыя, без сівізны, рысы твару рэзкія. Ва ўсім яго абліччы ёсць нешта наіўна-шчырае, і, мусіць, менавіта гэта яго і малодзіць.

*Пераклаў Ул. МЕХАЎ.*



## ГОРАД-ГЕРОЙ




Суровы напамінак на Неўскім праспекце...

Фота В. Цына (ЛенТАСС).

Пётр ОЙФА

# СУСТРЭЧА З НЕЎСКАЙ ДУБРОЎКАЙ

*Гвардыі маёру ў адстаўцы А. В. СТРАІЛАВУ.*

Там, дзе шумела некалі дуброва,
Вырас ля шашы пасёлак новы.

Вераснем (цудоўная пара!)
Нам шафёр аб'явіць,

Як шыфроўку:
— Калі ласка, Неўская Дуброўка.
Восень. Клёны золатам гараць.

Чалавека ў шэрым пінжаку
Так і цягне паглядзець раку.

На гранатны валявы рывок
Тут зямлі ўсёй—«Неўскі пятачок».

Ды камбату мужнаму затое
Тут, нібыта ў храме, ўсё святое.

Побач хлопцы гэткія ляжаць!
Ім бы сваіх дзетак гадаваць.

Кроў сцякае па маршчынах шчок
На акопа высцылы пясок.

За спіной Нява. Ён далей не ідзе,
Бой на левым беразе вядзе.

Вы яго пакіньце, не трывожце,
Зноўку ён на Ленінградскім фронце.

Пераклаў Ю. СВІРКА.



У гонар абаронцаў Ленінграда, якія спынілі фашысцкую зграю ў верасні 1941 года.

Фота П. Фёдарава. (ЛенТАСС).

Марыя КАМІСАРАВА

# ПАЭЗІЯ РАДНІЦЬ УСІХ ЛЮДЗЕЙ

Гучаць няўмоўчна
Поруч два імёны,
Даходзячы да сэрцаў праз гады.
Купала!
Колас!
Голас іх натхнёны
Калыша далі сёння, як тады.

Іх вобраз беражэ душа народа.
Шляхі-дарогі іх з'яднаць для нас
Так клапатліва здолела прырода,
Што не уладны разлучыць іх час.

Іх песенная ніва,
Як на дзіва,
Такі ўзрасціла шчодры ўраджай,
Насенне небывалага наліва—
Бяры яго і поле засявай.

Прымі падзяку, Беларусь,
За казку,
Купальскай ноччу ў трапяткой расе,
Як расцвіла цудоўна—
Калі ласка!—
Зрывайце кветку-папараць усе!

Ты ўзгадавала свету на здзіўленне
Магутны голас песняра свайго.
І Нёмана пявучыя струменні
Звіняць былінна ў эпасе яго.
Дыханне гоняў і дуброў апетых
Пачуеце ў цішы задумнай вы
Ад кніг,
Дзе зліта пачуццё паэта
З дыханнем веснім птушак і травы.

Уторыць рэхам далячынь нанова
Хадзе Купалы,
Коласа хадзе.
І ў сэрцы птушкай затрапеча
слова,
Кругі, крылом махнуўшы, павядзе.

За кругам круг,
За другам друг,—
Зірніце!
Кругі братэрства
І кругі надзей...
Аддана сэрцы ў цесны круг
самкніце,
Паэзія радніць усіх людзей.

Пераклаў П. МАКАЛЬ.

## ГОРАД НАШЫХ СЯБРОЎ



Браніслаў КЕЖУН

# БЕЛАРУСКІМ ПАЭТАМ

На сталічных вакзалах
Шмат сустрэч выпадала,
Шмат было прывітальных
прамоў.
Аб пачуццях спрадвечных
Нашай дружбы сардэчнай
Ґаварылі пагляды
сяброў.

На Амурскім прычале
Вашы песні ґучалі,
У даль каціліся хваляй
марской,
Над ракою Нявою,
Над ракою Масквою
І над матухнай Волгай-
ракой.

І таму мне так люба
Дума дзядзькі Якуба,
Што жывою ідзе праз
гады.
Непахісна як скалы,
Словы Янкі Купалы
Сталі ў сэрцы маім
назаўжды.

Помню вашы вітанні,
Помню ўсе пажаданні,
Беларусы, браты вы мае.
Ваша добрая мова —
Беларускае слова —
Пра шчаслівую долю пяе.

Сустракаліся з мірам,
Расставаліся шчыра
І на Прыпяці і на Дзвіне.
Тыя шчасныя хвілі
Нас здружылі, зраднілі
І надоўга запомняцца
мне.

Палюбіў я навекі
Беларускія рэкі —
І жадаю абняць сёння вас
Ад душы, па-сяброўску,
Так, як Глебка і Броўка
Абдымалі мяне ў той час.

Пераклаў Хв. ЖЫЧКА.



ЛЕТАМ у Ленінградзе пабывалі дарагія госці—група беларускіх пісьменнікаў. Шмат было ў іх цікавых, сардэчных сустрэч. «Здымі на ўспамін»,—папрасілі мяне таварышы. І хоць рука мая звыклая больш да пяра, чым да фотаапарата, адважыўся выканаць гэтую просьбу. Зрабіў некалькі здымкаў. Вось два з іх. На першым вы бачыце Генадзя Бураўкіна ў час выступлення на эстрадзе Цэнтральнага парку культуры і адпачынку (крайні справа — вы, мусіць, і самі пазналі — Сяргей Грахоўскі). Другі здымак зроблены ў піянерскім лагеры Балтыйскага завода. У другім радзе сядзяць (злева направа) Анатолій Чапуроў, Алег Шасцінскі, Ніл Гілевіч, Алесь Савіцкі. А ў трэцім радзе — з юнымі гаспадарамі лагера Іван Грамовіч.

Анатолій ТОНКЕЛЬ.

# «ХАЧУ СУСТРЭЦЦА ЗНОЎ...»

*Галоўны рэжысёр Ленінградскага тэатра імя В. Ф. Камісаржэўскай, заслужаны дзеяч мастацтваў РСФСР і Грузінскай ССР Р. АГАМІРЗЯН расказвае карэспандэнту «Літаратуры і мастацтва».*

— У 1964 годзе на сцэне славутага Ленінградскага тэатра імя М. Горкага я паставіў п'есу Н. Думбадзе і К. Лордкіпанідзе «Я, бабуля, Іліко і Іларыён». Спектакль да гэтага часу захаваўся ў рэпертуары і мае ў гледачоў поспех. Калі тэатр быў у Маскве — я добра гэты дзень памятаю — мне пазваніў Барыс Уладзіміравіч Эрын, які працаваў тады ў Мінску галоўным рэжысёрам тэатра імя Янкі Купалы, і запрасіў паставіць гэтую самую п'есу ў купалаўцаў.

Тэатр — мая прафесія ўжо дваццаць гадоў, і я шмат, вядома, чуў пра купалаўскі калектыў і яго майстроў. Таму запрашэнне было мне прыемным. Адно бянтэжыла — як загучыць грузінская п'еса па-беларуску і ці загучыць увогуле? Надта ж не блізкія паміж сабой нацыянальныя характары беларусаў і грузін. Надта ж невялікі, паводле маіх звестак, быў у тэатры вопыт работы з драматургіяй Закаўказзя, ды і ці быў ён увогуле?

Цяпер я з самым шчырым сэрцам магу сказаць, што мае сумненні пры рабоце ў Мінску вельмі хутка развеяліся. Прафесійнае майстэрства і духоўны багаж артыстаў старэйшага беларускага тэатра аказаліся дастаткова багатымі, каб адчуць і ўзнавіць нацыянальныя рысы братняга народа, каб жыць на сцэне яго болем і радасцямі. Да таго ж у асобе галоўнага мастака купалаўскага тэатра, майго суайчынніка Армена Багратавіча Грыгар'янца — ён афармляў спектакль — я знайшоў і аднадумца, і добрага памочніка, які шмат у чым адкрыў беларускім акцёрам Закаўказзе, а мне, закаўказцу, — беларускіх акцёраў.

У 1965 годзе адбылася прэм'ера. Я ўспамінаю яе з хваляваннем. Работа ў Мінску, знаёмства і зблізкэнне ў працэсе нараджэння спектакля з артыстамі як старэйшага пакалення — Станютай, Дзядзюшкам, Кармуніным, так і малодшага (зрэшты, цяпер ужо, мусіць, сярэдняга — час бяжыць!) — Міланавым, Аўсяннікавым, Дашкоўскай, — прынеслі мне асалоду. З усімі ўдзельнікамі спектакля, з тэатрам імя Купалы ўвогуле ў мяне пачалася дружба. Я прыязджаў у Маскву, калі яны прывозілі туды «Я, бабуля, Іліко і Іларыён», прыязджаў некалькі разоў у Мінск.

А калі дома, у Ленінградзе, у нашым тэатры імя Камісаржэўскай узнікла ідэя паставіць другую п'есу тых самых Н. Думбадзе і К. Лордкіпанідзе — «Калі б неба было люстрам», — мы запрасілі ў якасці мастака спектакля А. Грыгар'янца. Потым ён афармляў у нас яшчэ ляонаўскую «Мяцеліцу». Такім чынам, у нас ёсць усе падставы лічыць гэтага вядомага беларускага тэатральнага мастака сваім другам і супрацоўнікам.

Сёлета тэатр імя Камісаржэўскай быў на гастролях у Закаўказзі — у Тбілісі, Баку, Ерэване. Асаблівым поспехам карыстаўся спектакль «Калі б неба было люстрам». І хачу адзначыць, што ў водгуках крытыкі аднадушна высока ацэнена было цудоўнае афармленне спектакля, прапанаванае нам Грыгар'янцам.

За маю работу па прапагандзе грузінскай драматургіі, па ажыццяўленню лепшых яе твораў на сцэнах тэатраў братніх рэспублік грузінскі ўрад прысвоіў мне званне заслужанага дзеяча мастацтваў Грузіі. Калі я выступаў у сувязі з гэтым у Тбілісі па тэлебачанню, то не мог не сказаць добрага слова і пра сваіх беларускіх сяброў. Слова пра давер, аказаны імі мне, слова пра тое, што спектакль «Я, бабуля, Іліко і Іларыён» на сцэне купалаўскага тэатра наглядна, практычна, а не дэкларатыўна, умацоўваў дружбу народаў нашай краіны. І сапраўды — з рускага горада Ленінграда прыязджае ў сталіцу Беларусі і з беларускімі акцёрамі ставіць п'есу грузінскіх драматургаў рэжысёр — армянін з рускай адукацыяй. Які тут патрэбен каментарый! Ды яшчэ калі афармляў спектакль Грыгар'янц — таксама армянін, які працуе ў Беларусі і зросся з ёю сэрцам! Ды яшчэ калі музыка ў спектаклі — Рэваза Лагідзе, вядомага грузінскага кампазітара, аўтара песні «Тбіліса»...



Сцэна са спектакля тэатра імя Камісаржэўскай «Амністыя». Ягадка — арт. В. Гемберг, Добрых — арт. С. Паначэўны.

Дружба, якая пачалася ў мяне з Беларуссю ў час работы над спектаклем, мае цяпер творчы працяг. Трэці сезон тут, у Ленінградзе, на сцэне нашага тэатра ідзе п'еса беларускага драматурга М. Матукоўскага «Амністыя». Ідзе з поспехам у гледачоў, з добрым, сардэчным стаўленнем да п'есы акцёраў, занятых у спектаклі. А ўвогуле, у рэпертуары ленінградскіх тэатраў беларуская п'еса — не такая ўжо рэдкая госця...

На парозе нашага агульнага вялікага свята хачу перадаць прывітанне ўсім, з кім працаваў у Мінску. Спадзяюся, што лёс дасць нам магчымасць сустрэцца ў якой-небудзь новай цікавай рабоце.

## Усевалад РАЖДЗЕСТВЕНСКІ

●

Дзе ладажскі вецер з разбегу
Б'е колкай імжою ўрасцяж;
Стаіць, бы з бялюткага снегу,
Бетоннага кольца прасцяг.

Па цэнтры яно разарвана
Узмахам геройскай рукі;
Гаворыць,—жыццё акіантана
Прарвецца ці позна, ці рана,
Варожыя знішчыць кругі.

У шквале снарадных разрываў;
Не знаючы стомы і сну,
Прайшло ленінградскае дзіва
«Дарогай жыцця» праз вайну.

Крышылася, падала неба,
Віхурна трымцелі палі,
Тут вытрымаць трэба,
тут выстаяць трэба,
Бо йдуць эшалоны духмянага
хлеба,
Ідзе дапамога з Вялікай зямлі.

Тужліва чарнелі варонкі.
Эх, толькі б паспець да зары!
Вялі рызыкоўна трохтонкі
Ваеннага часу майстры.

Асколкамі іх абсыпала,
Сцябала свінцом уразлёт,
Свістала і злева, і справа,
Стагнала, раўло, грукатала,
Спружыніла ладажскі лёд.

Ахутвалі прагныя горы
Раз'юшанай, чорнай вады,
І смела ўразалі шафёры
Зігзагам крутыя сляды.

А колькі рупліўцаў пашаны,
Герояў блакаднай пары,
З машынамі, смерцю абраны,
У палонкавым зніклі віры.

. . . . . . . . . .

Цвіце ленінградскае лета —
Праменняў вясёлкавы рой,
У песнях, у вершах апета,
Над Ладагай вечна жывой.

Спыніся, замры ў маўчанні,
Успомні часіны нягод,
Прыслухайся,—чуеш, —
гучанне
Над кольцам плыве
трыумфальным —
Водгук тых памятных год!

Пераклала Р. БАРАВІКОВА.

Матросу з «Аўроры» Дзіанісію Іванавічу Вашчуку — 81 год...
Фота Ю. БЯЛІНСКАГА, С. ТУРЫНА. (ЛенТАСС).

ШКОЛА РУСКАГА БАЛЕТА. У харэаграфічным вучылішчы імя А. Я. Ваганавай.
Фота П. ФЯДОТАВА.

# ДЗЯКУЙ ТАБЕ, ЛЕНІНГРАД!

З. АЗГУР, народны мастак БССР, правадзейны член Акадэміі мастацтваў СССР

Л. РАХЛЕНКА, народны артыст СССР.

**Рахленка.** Не ведаю, як ты, Заір Ісакавіч, а я ўспамінаю свае студэнцкія гады ў Ленінградзе з хваляваннем.

**Азгур.** Я таксама... Прыехаўшы вучыцца, я ўбачыў ленінградскія плошчы, вуліцы, Няву, Зімні палац, Меднага Конніка ўпершыню. Але ў мяне было адчуванне, нібы ўсё гэта я ўжо бачыў—так глыбока жыў гэты горад у маім уяўленні.

**Рахленка.** Дзівосны быў час. Маладосць краіны, новага ладу супала з нашай маладосцю — што нам былі нейкія там цяжкасці, нейкая там бытавая няскладзіца!

**Азгур.** Я добра памятаю, як нам, першакурснікам Акадэміі мастацтваў, прывялі складзенага, як алімпійскі бог, юнака, сказалі, што завуць яго Лёня Рахленка і што ён будзе ў нас натуршчыкам. Той хлопец так і дыхаў энергіяй! Мне было прыемна, калі я даведаўся, што ты амаль зямляк —я з Віцебска, ты з Гомеля.

**Рахленка.** Памятаю, памятаю гэты дзень. Мае таварышы па інстытуту сцэнічных мастацтваў дужа мне зайздорсцілі. Стыпендыя была маленькая, работу знайсці цяжка — не закончыўся яшчэ перыяд НЭПа,—а натуршчыку плацілі пяцьдзесят капеек за сеанс. Грошы па нашых тагачасных патрэбах вельмі салідныя.

**Азгур.** Так, было нялёгка. Я, калі здаваў уступныя экзамены, спаў у інтэрнаце пад сталом... Але ўвогуле мне, канечне, было лягчэй, чым табе і іншым сябрам,—амаль штомесяц атрымліваў грашовыя пераводы ад Якуба Коласа і Янкі Купалы.

**Рахленка.** Цудоўны штрышок чалавечага аблічча нашых народных паэтаў — заўважыць у Віцебску ў мастацкім тэхнікуме таленавітага хлопца і, як роднаму, памагаць яму ўсе гады далейшай вучобы!..

**Азгур.** Уяўляеш пачуццё адказнасці, якое я перад імі—Коласам і Купалам,—ды і не толькі перад імі, адчуваў! Можа, хто-небудзь палічыць гэта за прыгожую выдумку, але ў першы час вучобы я часта ранічкай з берагу Нявы ўглядаўся праз туман у мудрых сфінксаў ля фасада Акадэміі мастацтваў, потым падыходзіў і пытаўся ў іх—калі ў думках, а калі і ўголас—атрымаецца з мяне мастак, ці не.

**Рахленка.** А яны таямніча маўчалі...

**Азгур.** Аднаго разу памроілася, што зварухнуліся і адказалі — пачулася, быццам станоўча...

**Рахленка.** Разумею цябе. Сам адчуваў нешта падобнае. Нашу акцёрскую групу набіраў і вёў Сяргей Эрнеставіч Радлаў. Займаўся з намі таксама Леанід Сяргеевіч Віўен. Я яшчэ наведваў заняткі ў Радлава на рэжысёрскім факультэце. І як мне хацелася спраўдзіць давер гэтых выдатных майстроў і цудоўных педагогаў!

**Азгур.** Пра свайго настаўніка — прафесара Рамана Раманавіча Баха — я напісаў у кніжцы мемуараў. Пра тое, **што** ён сваім вучням адкрываў і **як** адкрываў...

**Рахленка. Як** — гэта вельмі важна. Не забудуся, напрыклад, заняткі па выяўленчым мастацтве, якія вёў у нас Павел Сцяпанавіч Брулоў, унук вялікага жывапісца. Ён ніколі не займаўся са студэнтамі ў аўдыторыі, заўсёды ў галерэі—у Эрмітажы, Рускім музеі і г. д.

**Азгур.** Ленінградскія музеі, помнікі, архітэктура —самі па сабе выдатная прафесура...

**Рахленка.** А тэатры, канцэртныя залы, наогул усё найбагацейшае мастацкае жыццё! Само паветра ў гэтым горадзе-цудзе насычана глыбокай культурай, высокім мастацтвам... Вельмі я люблю глядзець тэлевізійныя перадачы, якія вядзе з Ленінградскай філармоніі, з ленінградскіх тэатраў Іраклій Андронікаў. Столькі ўспамінаў яны абуджаюць, столькі асацыяцый!

**Азгур.** Цудоўная якасць ленінградскай творчай інтэлігенцыі — шырыня інтарэсаў, цікавасць да сумежных мастацтваў. Мой настаўнік Раман Раманавіч Бах вельмі добра іграў на віяланчэлі. Ён часта іграў разам з Мацвеем Генрыхавічам Манізерам — гэты выдатны скульптар, між іншым, закончыў па класу віяланчэлі кансерваторыю,—і я шчаслівы, што на іх канцэртах бываў.

**Рахленка.** З нас рыхтавалі ў інстытуце драматычных акцёраў, але ўважлівае знаёмства з операй, балетам, праграмамі філармоніі было абавязковым. Прэм'ера пракоф'еўскай «Любові да трох апельсінаў» у рэжысуры нашага майстра Сяргея Эрнеставіча Радлава, «Пскавіцянка» з дэбютантам Маркам Рэйзенам, юная Марына Сямёнава ў глазуноўскай «Раймондзе», сам Глазуноў на нашых музычных занятках,—усё гэта, ды і шмат што іншае, не сцёрлася з памяці праз гады і гады.

**Азгур.** Глазунова я таксама памятаю. На яго юбілейным вечары. Ён стаяў за дырыжорскім пультам, а на сцэне ішла тая ж самая «Раймонда»... Памятаю яшчэ Луначарскага. На дыспуце «Ці ёсць бог?».

**Рахленка.** Ну, тагачасныя дыспуты, дыскусіі, пралеткультаўскія перагібы—ад іх галава магла пайсці кругам! На літаратурных вечарах—памятаеш?—кубісты, імажыністы, «нічавокі»...

**Азгур.** Час быў складаны. Новае толькі-толькі ўсталёўвалася. Не дзіўна, што ў нянавісці да мінулага сёй-той гатовы быў з вадой выплюхнуць і дзіця.

**Рахленка.** Перакананыя прыхільнікі рэалізму і праўды ў мастацтве і тады іранічна ставіліся да ўсялякіх крыклівых навацый. Памятаеш, геніяльная вахтангаўская «Прынцэса Турандот» нарадзіла плойму кволых, пераймальных «прынцэсачак» па ўсёй краіне. Аж пакуль Аляксандр Рафаілавіч Кугель не абсмяяў бездапаможных пераймальнікаў у пародыі-спектаклі «Прынцэса Ерундот». Ці ўзяць яго ж пародыю на захапленне тэатраў «Змовай імператрыцы» Талстога і Шчогалева. У Ленінградзе ў Вялікім драматычным тэатры спектакль па гэтай п'есе быў выдатны. А вось у многіх тэатрах правінцыі ставілі п'есу няўмела, скажалі аўтарскую задуму, вельмі прыблізна ўяўлялі сабе прыдворны антураж, узаемаадносіны і г. д. Таму ў тэатры «Крывое люстра» і нарадзіўся парадыйны спектакль «Ой, не хадзі, Грыцю, тай на «Змову імператрыцы».

**Азгур.** Цікавым мы ўсё-такі жылі тады жыццём, Леанід Рыгоравіч, цікавая нам выпала студэнцкая пара!

**Рахленка.** Так, Ленінграду я лічу сябе абавязаным. Гэта ім закінутае зерне стала маёй будучыняй, маім мастакоўскім абліччам, маім жыццём.

**Азгур.** Колькі ў нас у Беларусі мастакоў, артыстаў, музыкантаў, якія могуць сказаць пра сябе тое самае! Толькі сярод сваіх калег-мастакоў я магу назваць Бембеля, Зайцава, Воранава, Стэльмашонка...

**Рахленка.** А ў драматычным тэатры? А ў оперы? Напрыклад, трупа, якая заснавала да вайны беларускі тэатр юнага гледача, цалкам была падрыхтавана ў Ленінградзе...

**Азгур.** Словам, адно нам застаецца сказаць на заканчэнне — дзякуй табе, Ленінград!

**Рахленка.** Па-мойму, мы гэта кажам на працягу ўсяе размовы, Заір Ісакавіч.

Запісаў дыялог Ул. МЕХАЎ.

## НАШ СУЧАСНІК

Валянцін МЫСЛІВЕЦ

# СТАНАЎЛЕННЕ

НАРЫС

### 3. ЯШЧЭ АДЗІН ЛЁС

Мадэльшчыкаў на «Цэнтраліце», як на ўсякім іншым заводзе, жартаўліва называюць інтэлігентамі... У словах гэтых і зычлівасць, і павага да людзей рэдкай, даўняй прафесіі, і шчырая сяброўская зайздрасць іх казачнаму мастацкаму ўмельству. Урэшце сапраўды: мадэльны цэх вельмі адрозніваецца ад іншых, што тлумачыцца спецыфікай працы. У ім святлей і неяк больш утульна, а паветра настоена на густым, прыемным водары елкі і хвоі, дуба і ясеня, сібірскіх лістоўніцы і піхты. І робяць мадэльшчыкі сапраўдныя цуды з дрэва па складаных, скрэмзаных чырвонымі і сінімі алоўкамі чарцяжах — першымі ў вялікім заводскім ансамблі ствараюць мадэль дэталі...

Яшчэ ад далёкіх продкаў дастаўся мадэльшчыкам інструмент: шаршэбка, рубанак, фуганак, стамеска, долата, малаток, кіянка... І хоць у мадэльным цэху «Цэнтраліта» мноства механізмаў — такарных, фрэзерных, стругальных станкоў, стружкавых піл, — без дзедаўскіх прылад не абысціся.

Доўга стаю я ўзбоч, каб не замінаць людзям, назіраю за імі і адчуваю, як зачароўвае мяне праца мадэльшчыкаў, як светлы настрой апаноўвае сэрца. Справа ад праходу — Аляксандр Чысцякоў, адзін з лепшых мадэльшчыкаў маладога прадпрыемства, налягае на фуганак, ловіць, як кажуць, міліметр, што набраўся пры зрошчванні дошак. Шапацяць, разлятаюцца ў бакі тонкія, як курыцельная паперка, габлюшкі. Фуганак з прысвістам коўзаецца па гладкай паверхні. Збоку глядзець— вельмі лёгка, нібыта сам вырываецца фуганак уперад, без намаганняў... Але чаго тады мадэльшчык так часта змахвае рукавом пот з узмакрэлага лба, чаго ён напружаны, увесь задыханы? Чалавек яшчэ не стары — якіх сорак пяць год усяго... І робіцца мне трошку сорамна раптам, што адразу падумаў не так, што здалася мне лёгкай праца мадэльшчыка, не дааценіў яе складанасці. І не толькі пра яе, працу, але і пра рабочага хочацца ведаць як мага больш: хто ён, з якіх месц, якім быў яго жыццёвы шлях... Звычайная, як кажуць, журналісцкая прага пачуць усё пра чалавека, што зацікавіў цябе, прывабіў тваю ўвагу. І вось неўзабаве перад табой разгортваецца яшчэ адна біяграфія рабочага.... Ёсць у ёй і нешта вельмі знаёмае, чутае ад другіх, але ёсць і сваё, адметнае.

Дзяцінства Чысцякова прайшло на вёсцы. І сам бегаў басаном па роснай траве, па свежай раллі, і наглядзеўся на іншых, што шнуравалі няўпынна ляснымі сцежкамі, грэбляю да ракі Цёбзы — паўнаводнага, чыстага, віхляста-бруістага прытока вялікай Волгі, шляхамі і гасцінцамі — да Кастрамы, адтуль на захад, усход, поўнач і поўдзень, па ўсёй вялікай Расіі-матухне. Цяжкавата было жыць людзям у вёсцы Русакова ў дакалгасныя гады. Таму і хадзілі, ездзілі, стараліся зарабіць на хлеб, бо на сваіх падзолах, на невялічкіх жаўтапёсых лапіках зямлі між лясоў былі ўсё няўроды і няўроды...

І тут бацьку ў адным з ад'ездаў у заробку пашчасціла. Ён набыў рабочую спецыяльнасць і не абы якую. На маляроў у 30-я гады быў попыт. Так Чысцяковы апынуліся ажно ў Маскве. З горадам звыкліся хутка. Чаго ж сумаваць па былым вясковым горы?

Бацька з маці ўладкаваліся на завод. Першы з пяці дзяцей, сын Іван, скончыў дзесяцігодку, паступіў у Ленінградскую ваенна-медыцынскую акадэмію. Прачулыя, поўныя аптымізму і светлых надзей лісты слаў курсант брату Аляксандру. «Выдатна вучыся, Саша. Слухайся настаўнікаў. Дысцыпліна, запомні, зарука маральнага здароўя. Чытай кнігі. У першую чаргу — пра рэвалюцыянераў, герояў грамадзянскай вайны. Ні на хвіліну не дапускай у душу скепсісу, адчаю. Уважна прыглядайся да той вялікай работы, якую вядзе партыя на культурным фронце. Вывучай Маскву — скарбніцу мастацтва і сталіцу сацыялістычнай дзяржавы. З крылатага палёту маладосці смела ўразайся ў жыццё. Рыхтуй сябе, як Рахметаў і Базараў, да барацьбы за светлую будучыню...». Гэтыя і многія іншыя парады старэйшага брата запомніліся Аляксандру назаўсёды. Ён і старанна вучыўся, і многа чытаў, наведваў музеі, быў у Маўзалеі Леніна...

У сорак першым Саша Чысцякоў скончыў сем класаў. Думаў вучыцца далей, марыў пра дзесяцігодку. А тут — вайна, Вялікая Айчынная... Бацька пайшоў на фронт. Старэйшы брат прыслаў ліст — таксама ваюе. Прыгадаліся Сашу яго словы: «Рыхтуй сябе... да барацьбы». Цяпер у іх быў вельмі канкрэтны змест...

Невысокага росту, шчупленькі шаснаццацігадовы юнак пабег у ваенкамат: ён хоча быць разам з бацькам і братам! Далі адбой. Што ж зробіш — пайшоў на завод. Маляроў ужо набралі, дык прызначылі вучнем фрэзероўшчыка.

На некаторы час завод стаў родным домам Сашу Чысцякову. Людзі суткамі не выходзілі з цэхаў. Фашысты акупіравалі Беларусь, пасля жорсткіх баёў захапілі Смаленск, падыходзілі да Масквы. Тут ужо кожны гатовы быў стаць са зброяй у руках на абарону дарагога, роднага горада. Але ў сярэдзіне кастрычніка цяжкога для нас сорак першага года прыйшоў загад аб эвакуацыі.

Ірваўся на фронт, помстай жыў тыя дні Саша. Але ж маці з меншай сястрой Людай не кінеш адных. Павёз іх у роднае, незабыўнамілае, з дрымучымі лясамі наўкола, Русакова, што ў Кастрамской вобласці. За год за якую толькі працу не браўся: і валіў лес, і церабіў яго, і траляваў на конях хлысты на бераг рэчкі, і ганяў плыты.

У Русакове, праз бацьку, даведалася сям'я, што на фронце загінуў старэйшы брат, ваенны ўрач Чысцякоў... І тады поплеч з бацькам у шарэнгу байцоў стаў Аляксандр Чысцякоў. Метка страляў, дык у снайперскую школу прызначылі, тры месяцы вучылі. І — на доўгачаканы фронт. Гадзінамі, бывала, сядзіць дзе на дрэве ці ў хмызах стоены стралок, пакуль не возьме на мушку гітлераўскага афіцэра. А тут і самога аднойчы прыкмецілі — на вайне як на вайне — секанулі з кулямёта па елцы...

Пасля шпіталю — зноў фронт. Зноў на рахунку забітыя гітлераўцы. Зноў раненне, шпіталь. Неўзабаве зноў перадавая.

Прайшлі віхурныя гады вайны, вайсковую форму франтавік змяніў на цывільны гарнітур — сяржанта Чысцякова дэмабілізавалі з арміі.

Дзе толькі ні пабываў Саша ў гэтыя пасляваенныя гады. Трапіў ён і ў край паўночны, працаваў аператарам на буравой, шукаў нафту і газ... Там і ажаніўся неяк неўпрыкмет. А потым жыццёвыя шляхі-дарогі прывялі Чысцяковых у горад Канск, дзе жылі жончыны бацькі. Нядоўга бавілі час без заняткаў — Саша ўладкаваўся на

Заканчэнне. Пачатак у №№ 48, 49.

---

Алена ВАСІЛЕВІЧ

# СОРАК СВЕЧАК

*Вядомай беларускай пісьменніцы Алене Васілевіч спаўняецца 50 год. З гэтага выпадку праўленне Саюза пісьменнікаў БССР звярнулася да юбіляра з прывітаннем, у якім гаворыцца:*

**«Дарагая Алена Сямёнаўна!**

**Горача, ад усяго сэрца віншуем Вас, вядомую беларускую пісьменніцу, з днём пяцідзесяцігоддзя.**

**Са Случчыны, з беднай сялянскай сям'і, рана пачалі Вы шукаць свае шляхі-дарогі. Спачатку была дарога ў навуку. У цяжкія гады, адразу ж пасля вызвалення Беларусі ад фашысцкіх захопнікаў, Вы паступілі ў Беларускі дзяржаўны універсітэт і паспяхова яго закончылі.**

**Ваш прыход у літаратуру вызначыла аповесць «У прасторах жыцця», якая была надрукавана ў 1947 годзе. З таго часу шматлікія чытачы і літаратурная грамадскасць з цікавасцю сочаць за Вашай творчасцю. Напісана нямала—аповесці, апавяданні, нарысы, артыкулы.**

**Добрае веданне жыцця, пранікненне ў духоўны свет герояў, уменне завастрыць увагу на маральных аспектах чалавечых адносін—усё гэта праявілася ў Вашых творах, а найбольш у аповесці «Шляхі-дарогі».**

**У апошнія гады Вы працавалі над цыклам аповесцей, і зараз яны выдадзены пад агульнай назвай «Пачакай, затрымайся». Гэты твор насычаны цікавымі падзеямі, сагрэты радасным пачуццём адкрыцця свету, паказвае станаўленне чалавечых характараў, з'яўляецца своеасаблівым летапісам жыцця роднай краіны.**

**Вашы кнігі для дарослых і дзяцей багатыя зместам, вучаць любіць жыццё, праўду, змагацца за светлыя чалавечыя ідэалы.**

**Жадаем Вам, дарагая Алена Сямёнаўна, здзяйснення творчых задум, сонечнага настрою, вялікага шчасця».**



*Рэдакцыя штотыднёвіка «Літаратура і мастацтва» далучаецца да гэтага віншавання, жадае юбіляру новых творчых поспехаў і прапануе ўвазе чытачоў урывак з п'есы, якую нядаўна напісала пісьменніца.*

### ДЫЯЛОГ ЗАМЕСТ ПРАЛОГУ

СУДДЗЯ. Слухаецца справа аб скасаванні шлюбу грамадзянкі Нішчымнай Валянціны Іванаўны і грамадзяніна Нішчымнага Алега Ігнатавіча. Справу ўзбуджае існіца — Валянціна Іванаўна Нішчымная... Ісціца, устаньце і назавіце суду ваша прозвішча, імя і па бацьку... Колькі вам год. Дзе вы жывяце? Кім працуеце?

ВАЛЯНЦІНА ІВАНАЎНА. Мне трыццаць шэсць год... Я — урач. Жыву па вуліцы Сонечнай... Жыву з мужам... Нішчымным Алегам Ігнатавічам і сваімі дзецьмі.

СУДДЗЯ. Сядайце, ісціца. Адказчык Нішчымны! Устаньце і раскажыце суду: колькі вам год? Дзе працуеце? З кім і дзе жывяце?

НІШЧЫМНЫ. Мне сорак два гады. Я — інжынер. Працую ў міністэрстве... З ісціцаю жыву ў адной кватэры...

ЖАНОЧЫ ГОЛАС (*з залы суда*). Падумаць, гэтакія людзі, а не ўжыліся...

СУДДЗЯ. Сядайце адказчык... (*Да членаў суда*). Як відно з заявы ісціцы, бакі пражылі ў шлюбе чатырнаццаць гадоў. За гэты час у іх нарадзіліся дзеці. Дачка Надзея — трынаццаць гадоў і сын Мікалай — восем гадоў.. Ісціца Нішчымная, устаньце і раскажыце суду, што прымусіла вас звярнуцца з заявай аб скасаванні шлюбу з адказчыкам Нішчымным Алегам Ігнатавічам. Падумайце, ісціца, магчыма вы пагарачыліся. Не забывайце, што ў вас ёсць дзеці. І ўзрост у вас ужо немалады...

ВАЛЯНЦІНА ІВАНАЎНА. Я ўсё гэта ведаю. Я прашу суд не адмаўляць мне.

СУДДЗЯ. Тады раскажыце суду... Назавіце факты, якія прымусілі вас падаць заяву?

ВАЛЯНЦІНА ІВАНАЎНА. Я пісала ў заяве... Мой муж абразіў мяне.

ЖАНЧЫНА (*з залы*). Бачылі, якая далікатная! Муж абразіў, дык яна на развод падаваць!

СУДДЗЯ (*звоніць у званок*). Грамадзяне, я патрабую парадку! (*Да Валянціны Іванаўны.*) А муж хіба не прасіў у вас прабачэння, што вы вось так раптам, адразу — у суд?

ВАЛЯНЦІНА ІВАНАЎНА. Гэта не раптам... Гэта не адразу...

МУЖЧЫНА-ЗАСЯДАЦЕЛЬ. Дык чаму ж вы не зрабілі гэтага раней?

ВАЛЯНЦІНА ІВАНАЎНА. Раней?.. (*працяглая паўза*). Баялася астацца адна... Баялася пакінуць дзяцей без бацькі. І... Я любіла свайго мужа.

ЖАНЧЫНА (*з залы*). А цяпер, мусіць, знайшла другога, што гэтакая смелая зрабілася!

СУДДЗЯ (*звоніць. Да Валянціны Іванаўны*). А цяпер вы свайго мужа больш не любіце?

ВАЛЯНЦІНА ІВАНАЎНА. Гэта не тое слова: «не люблю»... Я даўно не паважаю свайго мужа. Я не магу болей жыць з ім разам.

ЖАНЧЫНА (*з залы*). Не паважае, дык не хоча жыць з гаспадаром... Паважала б, каб добранька даў!

СУДДЗЯ. Грамадзяне, я прашу не перашкаджаць суду!

МУЖЧЫНА-ЗАСЯДАЦЕЛЬ (*да Валянціны Іванаўны*). Вы кажаце, даўно не паважаеце свайго мужа. Але ж дагэтуль вы жылі з ім?

ВАЛЯНЦІНА ІВАНАЎНА. Жыла, як жывуць вельмі многія...

ЖАНЧЫНА-ЗАСЯДАЦЕЛЬ. А вы самі — ці ўсё зрабілі, каб наладзіць сваё сямейнае жыццё?

ВАЛЯНЦІНА ІВАНАЎНА. Я не ведаю, ці ўсё я зрабіла... Але я рабіла ўсё, што магла. Як умела.

МУЖЧЫНА-ЗАСЯДАЦЕЛЬ. Што ж усё-такі канчаткова штурхнула вас падаць заяву?

ВАЛЯНЦІНА ІВАНАЎНА. Я сказала: мой муж... мяне абразіў. У свята. Пры людзях...

СУДДЗЯ (*да засядацеляў*). У сваёй заяве ісціца піша, што 9-га мая, вечарам, пасля таго, як яны з адказчыкам правялі з дому гасцей, на святочнай вуліцы, на вачах людзей, адказчык брудна лаяўся і... плюнуў ісціцы ў твар.

ЖАНЧЫНА-ЗАСЯДАЦЕЛЬ. Ваш муж быў п'яны?

ВАЛЯНЦІНА ІВАНАЎНА. Не, мой муж не быў п'яны.

ЖАНЧЫНА-ЗАСЯДАЦЕЛЬ. А наогул—муж ваш выпівае?

ВАЛЯНЦІНА ІВАНАЎНА. Не. Ён не п'е.

МУЖЧЫНА (*насмешліва з залы*). І не курыць?

ВАЛЯНЦІНА ІВАНАЎНА. І не курыць.

ЖАНЧЫНА (*з залы*). З гэтакім чалавекам толькі золата важыць — не п'е, не курыць!

МУЖЧЫНА (*з залы*). І жанчын яшчэ напэўна не любіць...

СУДДЗЯ. Грамадзяне прысутныя, папярэджваю апошні раз! (*Да Валянціны Іванаўны*). Чым жа быў выкліканы такі ўчынак адказчыка?

ВАЛЯНЦІНА ІВАНАЎНА. Назаўтра раніцой я павінна была ляцець са сваім калегам-хірургам да хворага... Ён быў нетранспартабельны.

СУДДЗЯ. І адказчык вас прыраўнаваў? Магчыма быў повад?

ВАЛЯНЦІНА ІВАНАЎНА. Повад быў толькі адзін: паміраў чалавек...

СУДДЗЯ. Што вы просіце ў суда, ісціца?

ліцейна-механічны завод, вучнем мадэльшчыка па дрэву. З роду не трымаў у руках фуганак, не знаўся са сталяркай, не бачыў такіх чарцяжоў, а захапіла новая работа, заводала чалавекам. І поспех не забавіў сябе чакаць — на пятым месяцы вучнёўства Аляксандру Чысцякову прысвоілі чацвёрты, хоць сабе і па старой сетцы, высокі разрад.

Бясконцым ланцугом пацяклі напружаныя, поўныя творчага гарэння і энтузіязму, працоўныя дні. Дробныя карпускі, накрыўкі, барабаны змяняліся паступова больш складанымі супартамі, карпусамі, станінамі, выпрацоўваўся прафесіяналізм у рабоце, мацавалася, каранямі ўрастала ў душу сувязь з рабочым калектывам.

Выхадныя, вольныя хвіліны, пакуль нарадзілася дачушка Люда, Аляксандр з жонкай Верай праводзілі цікава: летам — пяшком, зімою на лыжах хадзілі ў лес, удваіх наведвалі чытальную залу бібліятэкі, кіно. Гэта было сапраўднае маладое шчасце. А з'явілася Людачка — яшчэ больш радасці, пяшчоты, дабраты і цяпла стала ў сям'і. Вера было ўвесь час бавілася з дачкой, а доўгімі зімовымі вечарамі, пад музыку завірухі, слухала ўсхваляваныя расказы мужа пра заводскае жыццё. Час бег непрыкметна. Міналі гады.

Толькі аднойчы, хмурым, халодным восеньскім ранкам, Аляксандр не застаў дома ні Веры, ні дачкі. На стале прачытаў запіску: «Людачка захварэла. Мы ў бальніцы. Вера».

Урачы прыйшлі да аднаго: сям'і Чысцяковых трэба шукаць новае месца жыхарства, калі хочуць, каб здаровая і бадзёрая была дачка...

Звыкліся з Поўначчу, абжыліся ў Канску, ды на табе — усё трэба пакідаць, на ўсё забывацца. Дзіця ж бацькам даражэй за ўсё на свеце.

І вось у далёкім, за тысячы вёрст ад Беларусі горадзе, неяк пачулі пра завод «Цэнтраліт». Распыталі ўсё пра Гомель, перачыталі літаратуру пра горад на Сожы... Як усё роўна для іх спецыяльна! Рака побач. Да лесу — рукою падаць. Абласны цэнтр. Другі, можна сказаць, пасля Мінска горад у рэспубліцы. А галоўнае — клімат для дачушкі неабходны... Вось так і трапілі ў Гомель.

Работа тады на «Цэнтраліце» была ў самым разгары. Магутныя бульдозеры наводзілі планіроўку. Многакубовыя экскаватары грузілі жаўтапёс на самазвалы, рылі катлаваны, траншэі пад фундаменты. Пад'ёмныя краны разгружалі бетонныя башмакі, перамычкі, пліты, формы. Размах будаўніцтва, энтузіязм і працавітасць людзей захаплялі, радавалі. Начальнік аддзела кадраў будаўнічага ўпраўлення неяк скептычна зірнуў на Аляксандра, развёў рукамі, сцепануўся:

— Мадэльшчыкаў мы не прымаем на работу. Што вы будзеце ў нас рабіць, таварыш Чысцякоў?

— Усё!

— Тады пахадзіце па кравецкіх атэлье, таварыш...

— Ды я ж спецыяліст па дрэву, не мадэльер, — усміхнуўся Саша. — Такія карпусы, станіны рабіў! Хоць бы ў брыгаду цесляроў афармілі?

— Па другому разраду, калі так прагнеце работы, таварыш Чысцякоў, — незадаволены настойлівым наведвальнікам, буркнуў начальнік аддзела кадраў будаўнічага ўпраўлення. — Вышэй не можам.

— Што ж, згодзен і на такіх умовах!

Чысцякову патрэбна было толькі зачапіцца ў незнаёмым горадзе. А там, Саша быў упэўнены, адкрыецца мадэльны цэх — перавядуць па спецыяльнасці. Высокаразраднікі ўсюды патрэбны. І ён жыў чаканнем таго шчаслівага дня.

Часта, як выпадала вольная хвіліна, падыходзіў Аляксандр Чысцякоў да мадэльнага корпуса. Шмат што яму было не зразумела ў планіроўцы цэха. Чаго раптам, думалася, бытоўкі і кантора адміністрацыі вынесены на пярэдні план? Начальнік, майстры, тэхнолагі, нарміроўшчыкі, значыць, як з вуліцы, дык прама ў свае кабінеты? У Канску ж і начальства, і рабочыя ў пачатку змены і пасля работы абавязкова праходзілі цэх— так было спланавана. Спыніцца каторы каля мадэлі, запытае, пагаворыць, глядзіш — нешта параіць... Другім потым расказвае пра рацыяналізацыю рабочага ў цэху: вунь што той прыдумаў! Лепш было так для агульнай справы.

Падзяліўся Аляксандр сваімі думкамі, заўвагамі з прарабам. А таму што? Маўляў, будуем па праекту Кіеўскага інстытута... Да таго ж, відаць, будаўнікі спяшаліся здаць будаўнічы аб'ект у тэрмін. Пераіначваць — цяжка.

І мадэльны цэх пабудавалі па чарцяжах... Восенню шэсцьдзесят пятага года пачалі завозіць станкі, абсталяванне. Чысцякова перавялі ў мадэльшчыкі. Зноў выказваў ён свае сумненні кіраўніцтву, заўвагі — як палепшыць умовы працы ў цэху. І тое-сёе ўзята было на заметку, зроблена. Ёсць і цяпер поле дзейнасці для рацыяналізатара. У цэху чыста, цёпла, нават светла для звычайнага наведвальніка, але не лішнімі былі б лямпы дзённага асвятлення над кожным варштатам, — яны нікольні не замінаді б рабоце кран-балек... І вельмі пахвальна, што камуніст Аляксандр Чысцякоў з запалам, страсна адстойвае свае перакананні, турбуецца пра сваё роднае прадпрыемства, думае пра калектыў. Ды і як інакш, урэшце?

Партыйная прынцыповасць, прамата, шчырасць і бескампраміснасць сталі неад'емнымі рысамі характару Аляксандра Іванавіча.

...Было гэта каля трох год таму назад. Іншы раз «пад градусам» прыходзіў на работу начальнік цэха Арон Валодзін, а неўзабаве зусім запіў, загуляў чалавек, у справы, вядома, перастаў узірацца. Неаднаразова гаварылі з ім дырэктар, парторг завода. Нічога не дапамагло. Дык склікалі ў цэху сход. Людзі спачатку адчувалі няёмка сябе, некаторыя гаварылі пра тое, што ён і спецыяліст добры, і арганізатар выдатны, маўляў, з кім не здараецца... Чысцякова такая «таварыская» абыходлівасць узарвала.

— Таварышы, як мы можам цярпець у сваім калектыве чалавека, які дапускае амаральныя паводзіны, п'яніцу? Тым больш, што Валодзін — начальнік цэха, з яго прыклад браць трэба, — рэзка выступіў ён. — Прапаноўваю звольніць з завода Валодзіна! Якія могуць быць гаворкі?

Разгарачаны Валодзін падхапіўся з месца, з адчаем глядзеў на свайго падначаленага. Няўжо ўсур'ёз Чысцякоў? Асабістай крыўды яму не рабіў. За што ж ты, Саша, так строга, маўляў?

А строгасць там, дзе тычыцца агульнай справы, неабходна. І ўжо іншыя мадэльшчыкі, чуе Валодзін, падтрымліваюць Чысцякова. Яго, здавалася, такога незамянімага і любімага начальніка, крытыкуюць, просяць звольніць. Пачаў Арон выкручвацца, пустасловіць. Рабочыя настаялі на сваім. Валодзіна звольнілі. Месяцы тры недзе бадзяўся. Вярнуўся з павіннай да сяброў: у рот не вазьму праклятай атруты, прыміце ў цэх. Але ж згубіць давер лёгка, набыць часам — немагчыма...

Новы начальнік добра павёў справу, навёў дысцыпліну, палюбіўся рабочым.

...Пасля працоўнай змены спяшаецца Аляксандр Чысцякоў да сям'і. Добра ўсё ў яго склалася і дома: жонка, Вера Раманаўна, працуе ў заводскай тэхнічнай бібліятэцы, дачка Людміла вучыцца ўжо ў дзесятым класе... Беларускі клімат ёй прыйшоўся па густу, набралася моцы — аж радасна бацькоўскаму сэрцу... І нездарма кажуць, што для звычайнага людскога шчасця дастаткова трох кампанентаў: каб было выдатнае здароўе, любімая праца і шчаслівая сям'я. Усё гэта і ёсць у Чысцяковых-гамяльчан.

ВАЛЯНЦІНА ІВАНАЎНА. Я прашу скасаваць наш шлюб і пакінуць мне дзяцей.

СУДДЗЯ. Сядайце *(да Нішчымнага)*. Адказчык, устаньце і раскажыце вы суду, як вы жылі зісціцаю.

НІШЧЫМНЫ. Грамадзянін суддзя, дазвольце я зачытаю маю вытворчую характарыстыку з месца работы... *(Гартае прынесеную папку.)*

СУДДЗЯ. У нас, у справе, ёсць ваша характарыстыка. Раскажыце суду, як вы жылі з ісціцаю.

НІШЧЫМНЫ. Я адмаўляю сваю віну. Я — заўсёды быў за сям'ю...

СУДДЗЯ. Дык якая ж у вас сям'я, калі вы—інжынер, інтэлігентны чалавек— і раптам плюеце жонцы ў твар?

НІШЧЫМНЫ. Гэта няпраўда! Гэта яе хваравітае ўяўленне. Я плюнуў убок.

МУЖЧЫНСКІ ГОЛАС З ЗАЛЫ. Цікава, куды ён плюе ў сябе на рабоце?

СУДДЗЯ. Што вы просіце, адказчык?

НІШЧЫМНЫ. Каб дзеці ні ў чым не мелі патрэбы, я прашу суд падзяліць нашу маёмасць справядліва.

СУДДЗЯ. А дзяцей вы таксама просіце?

НІШЧЫМНЫ. Прашу! Такой мацеры дзеці не патрэбны!

СУДДЗЯ. Але ж вы ніводным фактам не даказалі віны свае жонкі.

НІШЧЫМНЫ *(зноў нервова перагортвае папку)*. Я не хацеў... Я не збіраўся. Але калі так... *(урачыста)* прашу суд азнаёміцца!

СУДДЗЯ *(чытае)*. «Я люблю вас... Але дзяцей сваіх я люблю больш, чым вас. І таму я застануся з імі. І з іх бацькам...»

СУДДЗЯ *(да Нішчымнага)*. Хто гэта пісаў? І да каго?

НІШЧЫМНЫ. Гэта пісала мая жонка.

ЖАНЧЫНА *(з залы)*. А што я казала! Знайшла палюбоўніка, дык і муж кепскі зрабіўся!..

СУДДЗЯ *(да Нішчымнага)*. А фотакопію хто зняў?

НІШЧЫМНЫ *(адводзіць позірк)*. Я ж павінен быў мець дакумент...

СУДДЗЯ. А дзе арыгінал?

НІШЧЫМНЫ. Арыгінал атрымаў адрасат.

СУДДЗЯ *(да Валянціны Іванаўны)*. Гэта вы пісалі?

ВАЛЯНЦІНА ІВАНАЎНА. Гэта пісала я.

НІШЧЫМНЫ. Прашу далучыць да справы яшчэ вось гэта... *(Дастае з папкі яшчэ адну паперу, падае суддзі.)*

СУДДЗЯ *(чытае)*. «Я не веру! Ты патрэбна мне. І я патрэбны табе... І ўсё роўна, не цяпер, дык праз год, праз пяць год мы будзем разам...»

СУДДЗЯ. А гэта чыё?

НІШЧЫМНЫ. Маёй жонцы гэта вядома лепш!

ЖАНЧЫНА *(з залы)*. Бачылі!.. А яна: пакіньце яшчэ ёй дзяцей... Ды такіх матак вешаць мала!

МУЖЧЫНА *(з залы)*. Не дай божа, зрабіць судом цябе, гэтакую праведніцу. Ты б насудзіла!..

СУДДЗЯ *(да Валянціны Іванаўны)*. Ісціца, вы знаёмы з гэтым? *(Паказвае толькі што прачытаную запіску.)*

ВАЛЯНЦІНА ІВАНАЎНА. Не, я не знаёма... Я не атрымлівала гэтага.

СУДДЗЯ *(да Нішчымнага)*. Якім чынам... Чаму гэта запіска аказалася ў вас, а не ў адрасата?

НІШЧЫМНЫ. Я ж павінен быў мець доказы...

СУДДЗЯ *(да Валянціны)*. Ісціца, вы можаце даць суду тлумачэнні?

ВАЛЯНЦІНА ІВАНАЎНА. Я прашу суд выслухаць мяне.

**КАРЦІНА 4-я**

*Бальнічная палата на 3 чалавекі. Ранішні абход урача. У палату заходзіць Валянціна Іванаўна.*

ВАЛЯНЦІНА ІВАНАЎНА. Добрай раніцы! Як мы спалі? Як нашы справы?

1-ШЫ ХВОРЫ *(зусім малады хлапчына)*. Добрай раніцы, доктар! Дадому хочам!

ВАЛЯНЦІНА ІВАНАЎНА *(падыходзіць да яго, папраўляе коўдру)*. Ну, што ж, збірайцеся, Беразоўскі, заўтра я вас выпішу. *(Бярэ яго руку, згінае ў локці.)* Не баліць? А вось так? *(Паварачвае.)* А вось так зрабіце. *(Паказвае, як зрабіць.)*

1-ШЫ ХВОРЫ *(круціць і махае рукою ва ўсе бакі)*. Толькі, калі выварачваю руку...

ВАЛЯНЦІНА ІВАНАЎНА. З гэтым, мілы, давядзецца яшчэ пахадзіць... У вас жа быў паршывы перапом... Але вы ў мяне маладзец! Учарашні рэнтген — проста выдатны! Так што збірайцеся дадому. *(Ідзе да другога хворага, паднімае з падлогі газету, кладзе на тумбачку.)* Ну, а ў нас што чутно?

2-ГІ ХВОРЫ *(худы пажылы мужчына)*. І сапраўды, доктар, надакучыла валяцца...

ВАЛЯНЦІНА ІВАНАЎНА. Ну, ну, Іван Мікітавіч! Вы ж у мяне самы дысцыплінаваны... Яшчэ на тыдзень набярыцеся цярпення і мужнасці... І тады...

2-ГІ ХВОРЫ. Зноў сёння мяса не далі...

ВАЛЯНЦІНА ІВАНАЎНА *(смяецца)*. Тры дні не дадуць, Іван Мікітавіч...

2-ГІ ХВОРЫ. Дзе ўжо тут быць мужным... Тры дні! Жонка казала, прынясе вечарам...

ВАЛЯНЦІНА ІВАНАЎНА. Божа вас барані! Вы ж усю справу сапсуеце!... Як і першы раз!.. Нам трэба мець ясную карціну, а вы мяса...

2-ГІ ХВОРЫ. Карціна... Якая ж гэта, доктар, карціна, калі хворага голадам мораць...

ВАЛЯНЦІНА ІВАНАЎНА. Нічога, Іван Мікітавіч, потым усё нагоніце! *(Ідзе да 3-га хворага, сядае каля століка, раскладае свае прыборы.)* Як маецца паэзія? *(Лічыць пульс.)*

3-ЦІ ХВОРЫ. Скажыце, доктар, вы мяне хутка пад нож?

ВАЛЯНЦІНА ІВАНАЎНА. Так ужо і пад нож... У вас, Барыс Іванавіч, сёння добры пульс. Роўны. Не скача...

3-ЦІ ХВОРЫ. Як пяцістопны ямб.

ВАЛЯНЦІНА ІВАНАЎНА *(смяецца)*. Ах, гэтыя паэты... *(Паднялася.)*

3-ЦІ ХВОРЫ *(раптам ажывіўся. Утрымлівае Валянціну Іванаўну за рукаў)*. Доктар! Сёння ноччу я напісаў вершы. Хочаце — прачытаю вам!

ВАЛЯНЦІНА ІВАНАЎНА *(строга)*. Я забараняю вам, Барыс Іванавіч... Ноч на тое, каб спаць, а не пісаць вершы... Мы рыхтуем вас да аперацыі... А вершы вас узбуджаюць. Вершы будзеце пісаць потым.

3-ЦІ ХВОРЫ. Калі — «потым»? І хто ўпэўнены, што гэта «потым» будзе?.. Вы, доктар, упэўнены? *(Глядзіць выпрабавальна ёй у вочы.)*

ВАЛЯНЦІНА ІВАНАЎНА. Барыс Іванавіч!.. Да наступнага аўторка вы павінны трымаць сябе прыкладна...

3-ЦІ ХВОРЫ. У наступны аўторак, значыць, на плаху?.. Ну, што ж... няхай плаха... «С тобой на плаху вместе я...» А сёння, доктар, усё ж паслухайце вершы!

ВАЛЯНЦІНА ІВАНАЎНА. Не буду слухаць вершы. *(Хоча пайсці.)*

3-ЦІ ХВОРЫ *(утрымлівае яе)*. Не бойцеся, доктар, вершы не мае, а Мікалая Забалоцкага. Спадзяюся, яго вы ўважыце?

ВАЛЯНЦІНА ІВАНАЎНА *(смяецца)*. Забалоцкага ўважу. *(Сядае.)*

3-ЦІ ХВОРЫ *(адкідваецца на падушцы, чытае вершы)*.

Что есть такое красота
И почему ее обожествляют люди?
Сосуд она, в котором пустота
Или огонь, мерцающий в сосуде?..

*(Ляжыць з заплюшчанымі вачыма.)*

ВАЛЯНЦІНА ІВАНАЎНА. Ну што ж, выдатныя вершы, аднак вам, Барыс Іванавіч, шкодна...

3-ЦІ ХВОРЫ *(насмешліва)*. Не шкодна, доктар. А бескарысна...

ВАЛЯНЦІНА ІВАНАЎНА *(кранаецца рукі хворага, мякка)*. Дамовімся, Барыс Іванавіч, што вершы — і вашы ўласныя і наогул... Мы будзем чытаць і слухаць потым...

3-ЦІ ХВОРЫ *(раздражнёна)*. Не хвалюйцеся, доктар! Я не буду больш патрабаваць ад вас такой вялікай ахвяры...

*У палату нячутна заходзіць і стаіць некаторы час нікім не заўважаны галоўны ўрач Ігар Львовіч. Ён бачыць напружанасць агульнага настрою і выходзіць на сярэдзіну пакоя.*

ІГАР ЛЬВОВІЧ. Дазвольце прыняць удзел...

ВАЛЯНЦІНА ІВАНАЎНА *(хоча звесці ўсё на жарт)*. Я са скаргай да вас, Ігар Львовіч. Мае хворыя не хочуць ноччу спаць, а пішуць вершы...

ІГАР ЛЬВОВІЧ. Хто не спіць? Хто піша вершы?

ВАЛЯНЦІНА ІВАНАЎНА *(паказвае на 3-га хворага)*. Вось наш Барыс Іванавіч...

ІГАР ЛЬВОВІЧ. Ён?! *(Паўза.)* І правільна робіць, што піша вершы! Не будзе ж ён пісаць, як мы з вамі пішам у гісторыі хвароб: у хворага Іванова быў стул... У хворага Пятрова стула не было... Я сам дома пішу вершы!.. *(Урачыста.)* І таму данай мне ўладай загадваю пісаць вершы ўсёй палаце! *(Да 1-га хворага.)* Пішы ты, юнача! *(Да другога хворага.)* Валяй і ты, барада!.. Ну, а яму *(паказвае на трэцяга хворага)* сам бог загадаў. Паэт... Мы яго прымусім яшчэ — не дарма ж мы вас усіх тут латаем! — прымусім напісаць оду на жыцце нас, грэшных эскулапаў...

2-ГІ ХВОРЫ. Валянціна Іванаўна забараняюць яму пісаць...

ІГАР ЛЬВОВІЧ. Я адмяняю загад Валянціны Іванаўны! *(Да Валянціны Іванаўны.)* І таму вас, доктар, я прашу да мяне ў кабінет.

*Дактары выходзяць.*

(Заканчэнне на стар. 14—15).

*ПА ВЫСТАВАЧНЫХ ЗАЛАХ*

**Сёлета гледачы братняй Савецкай Літвы двойчы атрымалі магчымасць пазнаёміцца з творчасцю мастакоў нашай рэспублікі. Так, нядаўна ў Вільнюсе ў экспазіцыі жывапісу ўсіх саюзных рэспублік, прысвечанай 50-годдзю ўтварэння СССР, бралі ўдзел і беларускія жывапісцы. Затым у Вільнюскім палацы мастацкіх выставак адбыўся вернісаж жывапісу і графікі Савецкай Беларусі, таксама прысвечаны юбілею братняга саюза рэспублік. Уражаннямі пра гэтую выстаўку дзеліцца старшы навуковы супрацоўнік Дзяржаўнага мастацкага музея Літоўскай ССР, мастацтвазнаўца Галіна Бальчунене ў артыкуле, напісаным спецыяльна для нашага штотыднёвіка.**

# НАПАЛ ДУМКІ, ПАЧУЦЦЯ

Выяўленчае мастацтва Беларускай ССР гучыць сёння на поўны голас, упэўнена, моцна. Імёны многіх мастакоў Савецкай Беларусі вядомы ў Літве — кожная новая сустрэча з іх творчасцю прыносіць радасць.

Вось і на гэтай выстаўцы — нямала твораў і даўнейшых нашых знаёмых, і падпісаных зусім новымі для нас імёнамі.

К. Касмачоў паказвае варыянт вядомай сваёй работы «Напярэдадні» — пра апошнія дні У. І. Леніна ў Разліве. Амаль манахромны жывапіс. Актыўна скарыстаны натуральны колер палатна. Тонкае мастацкае рашэнне.

Карціна М. Манасзона «І з'езд РСДРП. 1898»... Наследуючы традыцыі перасоўнікаў, мастак знаходзіць пераканальныя сродкі выразнасці. Эфекты асвятлення вылучаюць галоўнае — ажыўленыя твары, стан душы рэвалюцыянераў.

Людзі новага, рэвалюцыйнага грамадства глядзяць на нас з палотнаў У. Стэльмашонка «ВХУТЭМАС. 1921 год» і «Свята ў камуне». У першай карціне — адухоўлены погляд Надзеі Канстанцінаўны Крупскай, пільны прыжмур Ільічовых вачэй, уважлівыя позіркі моладзі, а фон — вострыя росчыркі плакатных тэкстаў, сутыкненне дынамічных дыяганалей. Звонкія акорды гарачых вогненна-чырвоных і бурштынава-жоўтых тонаў вядуць гледача ў той напружаны час, калі маладое мастацтва маладой краіны стаяла ля вытокаў.

Калі ў «ВХУТЭМАСЕ» У. Стэльмашонак скарыстоўвае элементы светаценевай мадэліроўкі, лепіць аб'ёмы, дык яго «Свята ў камуне» нагадвае маляўнічае дэкаратыўнае панно — яно гучыць, як мажорная песня.

Надоўга засталіся ў памяці раней бачаныя карціны М. Савіцкага «Партызаны» і «Партызанская мадонна». Сёння літоўскія гледачы пазнаёміліся з яго манументальным палатном «Віцебскія вароты».

...Быццам востры боль у цела, уразаюцца ў барвова-чырвонае неба чорныя галіны дрэў... Мужна і журботна ідуць з лясной блакады на Вялікую Зямлю маці, сёстры, жонкі партызан. У строгай суровасці твараў, у выяўленай мастаком велічы чалавечага духу — нешта і ад цудоўных узораў старажытнарускага жывапісу безыменных майстроў.

У нас раней экспанаваліся карціны «Над Прыпяццю», «Жанчынам Вялікай Айчыннай вайны прысвячаецца», «Ільны беларускія» В. Грамыкі. Цяпер мы сустрэліся з яго работамі «Салдаты», «Чырвоныя землі Полаччыны», «Зямля». Старанна выпісаныя дэталі аблічча былых франтавікоў у «Салдатах», магчыма, некалькі наўмысныя, але прадуманы кампазіцыйны прыём, нізкі ракурс надаюць карціне рысы манументальнасці, і высакародны сімвалічны падтэкст ясна прачытваецца ў вобразе белых аблокаў, што praплываюць над колішнім полем бою: быццам гордыя белыя птахі — памяць пра тых, што жыццём сваім сплацілі свабоду жывых...

У цэнтры ўвагі гледачоў і палатно М. Залознага «Салдаткі». Буйным планам на трывожным чорна-лімонным фоне — жанчыны, якія чытаюць ліст з фронту. Кампазіцыя кампактная і выразная, устойлівая, быццам выяўляе непахісную волю салдатак. Падобна ўрачыстаму рэквіему гучыць каларыт палатна: аскетычныя чорныя тоны, напружана-жоўтыя, пякучыя кармінна-чырвоныя, трывожныя фіялетавыя з адценнем сіняга... Вялікія здольнасці каларыста збліжаюць творчасць гэтага беларускага майстра з творчасцю шырока прызнанага літоўскага жывапісца Л. Тулейкіса. У абодвух прасочваецца агульнасць у багацці колернага гучання палотнаў, хаця манера пісьма — розная: рэзка-дынамічная, абагуленая ў Л. Тулейкіса і пластычная, «важкая і відочная» — у М. Залознага.

Па шырыні задумы, па выразнай халодна-шэрай гаме манументальны дыпціх Г. Вашчанкі «Бетон», прысвечаны тэме вайны і міру, пераклікаецца з некаторымі палотнамі літоўскай манументалісткі С. Вейверытэ («Сталь»).

Як мастака вялікай эмацыянальнай сілы ведаюць у Літве М. Данцыга, памятаюць яго работы «Гудзе зямля Салігорская», «Мой Мінск» і іншыя. Аднак на гэты раз яго «Рабочы» прагучаў схематычна. Больш мяккі і больш цёплы вобраз дзяўчыны ў карціне «Купалавы радкі».

Светлае эмацыянальнае гучанне, выразная пластыка кампазіцый, радаснае ўспрыняцце жыцця, чыстыя, звонкія фарбы радуюць у палотнах В. Сумарава, В. Сахненкі. Смарагдава-зялёная гама ўражвае ў кампазіцыі В. Тарасава «Салдаты».

Трэба вельмі любіць жыццё, адгукацца на яго ўсім сэрцам, каб так паэтычна і шчодра апяваць прыгажосць роднага краю, як на гэта здольны беларускія жывапісцы. Яны славяць прыгажосць жыцця і ў манументальных, эпічных палотнах, і ў маленькіх лірычных эцюдах. Вось пейзажы В. Цвірко. Шырокая, дэкаратыўная манера пісьма. Тут і роздум пра шляхі радзімы («Мінулае»), і элегічныя настроі («Празрысты дзень»). Нешта істотнае родніць гэтага мастака з нашым вядомым жывапісцам А. Гудайцісам.

Уражваюць напісаныя В. Грамыкам «Чырвоныя землі Полаччыны» і «Зямля» — эпічныя вобразы радзімы. Шырока дыхае зямля. Пругка закруглены масівы ўзгоркаў, курганаў. Плаўныя абрысы воблакаў. Усё — пластычнае. Выразная кампазіцыя. Выразны колер.

Прыгожыя камерна-лірычныя эцюды К. Касмачова, Я. Красоўскага. Сакавіта напісаны пейзажы В. Кубарава, Х. Ліўшыца. Плаўныя, цякучыя лініі льюцца, быццам задушэўная песня, вабяць да твораў М. Казакевіча. І па фактуры, і па інтэнсіўным гучанні фарбаў падобны на россып уральскіх самацветаў жывапіс Б. Аракчэева. У яго «Вясновых ветрах» — і глыбокая сінява лазурыту, і нюансы малахіту, і шматколернасць яшмы.

У кожнага з беларускіх партрэтыстаў — свой стыль, але мэта ў іх адзіная: адлюстраваць найбольш тыповыя рысы характару свайго народа, сваіх сучаснікаў.

Я. Зайцаў у «Партрэце пісьменніка П. Глебкі», падрабязна апісваючы знешнасць, імкнецца выявіць псіхалагічны стан персанажа партрэта.

Л. Дударэнка ў аўтапартрэце «Я ў Прыбалтыцы» імкнецца, каб настрой «персанажа» пераклікаўся з экспрэсіяй пейзажа. Што ж, ноты рамантычнай усхваляванасці гучаць у гэтым аўтапартрэце.

У партрэтах А. Кішчанкі — вострая назіральнасць. Мастак не капіруе мадэль — стварае абагулены вобраз, выяўляе настрой. Гэтаму шмат у чым памагае колерная гама — то мяккая і пяшчотная бэзавая дымка («Сланечнікі»), якая навявае роздум, то чысты лакальны колер рэнесанснага гучання («Партрэт дзяўчыны»), то ўзмоцнена-напружаныя ўспышкі чырвонага, якія падкрэсліваюць складаны духоўны свет і тэмперамент («Жаночы партрэт»).

Галерэя партрэтаў Л. Шчэмелева дазваляе гаварыць пра яго, як пра мастака са сваім стылем. З пачуццём меры і такту жывапісец скарыстоўвае прынцыпы абагульнення, дэкаратыўнасці («Скрыпачка», «Чырвонае кафэ»), прымяняе элементы светаценевай мадэліроўкі («Партрэт дачкі»).

Партрэтысты Літвы таксама звяртаюцца да прынцыпаў дэкаратыўнасці і абагульнення, да ўмоўнага, сімвалічнага гучання колеру, іншы раз — да дэфармацыі (Л. Тулейкіс, Л. Гутаўскас). У мастакоў Беларусі можна павучыцца таму пачуццю меры ўмоўнасці, за якой, калі яе пераступіць, можа застацца толькі схематызацыя вобраза.

Графіка Беларусі... Гэта цэлы свет. Досыць своеасаблівы сёння. А. Паслядовіч, Н. і Г. Паплаўскія, А. Кашкурэвіч і многія іншыя.

Літоўскі глядач, выхаваны на цудоўных узорах графічнага мастацтва, з цікавасцю сустрэўся з графікаю Беларусі. У работах шэрагу майстроў нашых суседніх братніх рэспублік выразна прасочваецца ўзаемасувязь.

Вялікі творчы вопыт адчуваецца ў работах А. Паслядовіч. Яе пошукі ў галіне каларыту («Тканіна і кветкі», «Гаспадыня») несумненна цікавыя.

Цікавыя літаграфіі В. Шаранговіча паводле матываў паэмы У. Маякоўскага «Уладзімір Ільіч Ленін»,

Серыя Г. Паплаўскага «Мой край» («Сейбіт», «Жняя», «Песня») высока прафесійная. У цыкле «Індыя» тактоўна трансфармаваны матывы старадаўняй архітэктуры, вобразы тераінь народнага індыйскага эпасу. У графічным лісце «Ікар» адчувальныя павевы кампазіцыйных прыёмаў прыбалтыйскай графікі, у прыватнасці — эстонскай.

## НІБЫ ГУЧЫЦЬ ТРЭМБІТА...

**Свае работы прыслалі ў Мінск львоўскія графікі. Работ шмат, работы цікавыя. Многія з іх надоўга затрымліваюць каля сябе гледача. Мяккасць, лірычнасць, нейкая казачнасць нават у сучасных сюжэтах — вось самае агульнае ўражанне, якое стварае экспазіцыя.**

**Адразу прыцягваюць увагу лісты У. Астафійчука «Час», «Прыход волатаў», «Танец жыцця», «Людзі і жывёла» і інш. Яны, праўда, няпростыя да разумення, — бо, пабудаваныя на матывах гуцульскага фальклору, патрабуюць ведання пэўных сюжэтаў, — аднак гэта амаль не аслабляе іх уздзеяння на гледача. Страшнаваты настрой чароўнай казкі пранізвае кожны іх штрышок. Выразна выкананы У. Астафійчуком дыпціх «Дарога».**

**Вялікая колькасць твораў прысвечана заходнеўкраінскай старажытнасці, народным гуцульскім звычаям (З. Кацэла — «У чужую хату», «[illegible]зыкі»; С. Гебус-Баранецкая — «Гуцульскае вяселле», «Алекса Доўбуш»; М. Падоўскі — «Крэпасць у Камянец-Падольскім» і інш.). Паэтызацыя — вось тое слова, якім лепш за ўсё можна ахарактарызаваць адносіны аўтараў да свайго краю. І як квінтэсенцыя гэтых адносін — работа М. Ілку «Дзесьці на Верхавіне», напоўненая такім лірызмам, такой любоўю да радзімы, што выклікае нават тонкі смутак.**

**Людзі працы — адна з галоўных тэм выстаўкі. Больш за іншых надалі ёй увагі І. Крыслач і Я. Нячай у серыях «Дзяды нашы» і «Нашы продкі» (адзначце: і тут «экскурс» у старажытнасць). «Каваль», «Летапісец», «Сталяр», «Ганчар» і «Ткач» Я. Нячая вырашаны крыху аднастайна, без выдумкі, менавіта «серыйным» падыходам. Няўдала, на наш погляд, выбрана і форма: лінагравюра на такой малой плошчы непазбежна выглядае грубавата. Значна больш тонка — і ў форме, і ў змесце — зроблены «Каваль», «Стальмах», «Пчаляр» і «Садоўнік» І. Крыслачам.**

*НОВЫЯ НАЗВЫ НА АФІШАХ*



**БРЭСЦКІ драматычны тэатр імя Ленінскага камсамола Беларусі паказаў прэм'еру — «У ноч зацьмення месяца» Мустая Карыма. Спектакль прысвечаны 50-годдзю ўтварэння СССР. У галоўных ролях выступілі народны артыст БССР А. Логінаў, заслужаныя артысты БССР Г. Качаткова і Г. Токараў, артысты І. Мацкевіч, Т. Волкава, Л. Бяляева, Э. Кавальчык, К. Перапяліца і іншыя. Рэжысура спектакля — заслужаны артыст БССР С. Яўдошанка і М. Кавальчык, дэкаратыўнае афармленне — заслужанага дзеяча мастацтваў РСФСР, лаўрэата Дзяржаўнай прэміі РСФСР Г. Імашавай.**

**На здымку — артысты І. Мацкевіч (Ак'якет) і Т. Волкава (Зубаржат).**

Фота П. ЛАЎРУСІКА.

# СОРАК СВЕЧАК

**(Заканчэнне. Пачатак на стар. 12—13.)**

**КАРЦІНА 5-Я**

*Ардынатарская. Ігар Львовіч і Валянціна Іванаўна разглядаюць рэнтгенаўскі здымак груднол клеткі.*

ВАЛЯНЦІНА ІВАНАЎНА. Рыхтаваць, Ігар Львовіч?

ІГАР ЛЬВОВІЧ. Рыхтуйце. Назначце назаўтра паўторна ўсе аналізы. Зрабіце яшчэ раз пераліванне крыві.

ВАЛЯНЦІНА ІВАНАЎНА *(запісвае ў гісторыю хваробы)*. Такі цяжкі хворы, Ігар Львовіч, што не ведаеш нават, як з ім трымацца...

ІГАР ЛЬВОВІЧ *(таксама піша)*. Не ведаеш, як трымацца... Ну, ну...

ВАЛЯНЦІНА ІВАНАЎНА. Праўда, Такі нервовы! Успыхвае, як запалка... Няўжо ўсе паэты такія?

ІГАР ЛЬВОВІЧ *(закурвае)*. Ваш паэт... цяжкі яшчэ і таму, што закаханы ў вас.

ВАЛЯНЦІНА ІВАНАЎНА. Ну што вы, Ігар Львовіч! Ён жа ў параўнанні са мною зусім... юнак...

ІГАР ЛЬВОВІЧ *(зноў разглядае здымак)*. Юнак... Ён аднаго года з вамі... Да таго ж, мілая вы мая, для жанчыны зусім не мае значэння, хто ў яе закаханы. Юнак ці стары. Анёл ці д'ябал... Абы закаханы быў!

ВАЛЯНЦІНА ІВАНАЎНА *(смяецца)*. Вы скажаце, Ігар Львовіч!

ІГАР ЛЬВОВІЧ. Гэта не я сказаў. Гэта сказалі да мяне. Мудрыя! *(Скідае халат, вешае яго на цвік.)*

ВАЛЯНЦІНА ІВАНАЎНА *(пераводзіць гутарку)*. Другая аперацыя — вось што палохае...

ІГАР ЛЬВОВІЧ *(глядзіць на яе выпрабавальна)*. А вы самі псіхалагічна падрыхтаваны да гэтай аперацыі?

ВАЛЯНЦІНА ІВАНАЎНА *(чырванее)*. Гэту аперацыю, Ігар Львовіч, мусіць, давядзецца некаму іншаму...

ІГАР ЛЬВОВІЧ. Як гэта—«іншаму»?

ВАЛЯНЦІНА ІВАНАЎНА. Я іду ў адпачынак.

ІГАР ЛЬВОВІЧ. У які яшчэ — адпачынак?

ВАЛЯНЦІНА ІВАНАЎНА. У дэкрэтны, Ігар Львовіч...

ІГАР ЛЬВОВІЧ *(ссоўвае акуляры на лоб, бесцырымонна разглядае Валянціну Іванаўну)*. Што-о?! Дык на вас жа нічога не відно!

ВАЛЯНЦІНА ІВАНАЎНА. Не глядзіце так на мяне, Ігар Львовіч...

ІГАР ЛЬВОВІЧ. Не глядзіце так на яе! Святая нявіннасць... Дзева прачыстая... І што — і ўладам пра гэта ўжо вядома? Мясцкому, напрыклад?

ВАЛЯНЦІНА ІВАНАЎНА. Вядома... Раіса Давыдаўна ведае...

ІГАР ЛЬВОВІЧ. Правільна! Адзін

Арганічная сувязь з прыёмамі літоўскай графікі — у творчасці А. Лось. Яе ілюстрацыі да беларускіх народных казак выкананы з густам. Тут удала скарыстаны колерныя акцэнты. Некаторыя эстампы А. Лось («Нацюрморт», «Людзі Палесся), вытрыманыя, можна сказаць, у духу творчасці старэйшага літоўскага майстра А. Кучаса, — гэта ўсхваляванае апавяданне пра тонкую прыгажосць свету.

У цэнтры ўвагі аматараў графікі на выстаўцы—серыя лістоў А. Кашкурэвіча «Нёманскі шклозавод». З густам мастак скарыстоўвае абагульненне, адмысловую пластыку прапорцый. Вобразы герояў гэтай серыі адухоўленыя, лірычныя. А побач з гэтым — работы інакшага гучання: па сіле экспрэсіі цыкл «Партызаны» займае першае месца.

У творчасці Ю. Зайцава наш глядач адчуў «родную душу». Тонкай назіральнасцю, мяккім гумарам пранізаны яго ліст «Маладыя мастакі на Сенежы», сапраўды, паэтычная «Вясна». А наколькі востры драматызм у яго экспрэсіўным лісце «Хатынь»!..

Серыя М. Рыжыкава «Радасць» — выразнасць прапорцый, натуральнасць графічнай гаворкі аб парываннях маладога нашага сучасніка.

Істотны эмацыянальны акцэнт экспазіцыі надаюць графічныя лісты І. Капляна. Яго серыя «Старадаўнія рускія ваенныя прымаўкі» — свежае, важкае слова ў графіцы. Поўны ўнутранага напружання, востра дынамічны трыпціх «Інтэрнацыянал».

ВЕЛЬМІ РАДУЕ багацце творчых пошукаў беларускіх мастакоў. Радуе, што моладзь не капіруе сваіх настаўнікаў, а шукае самастойныя шляхі да сэрца гледача. Радуе гарачае імкненне ўсяго калектыву творцаў адлюстраваць нашу сучаснасць ва ўсёй яе складанасці, вельмі няпростай для спасцігнення сродкамі мастацтва.

**Галіна БАЛЬЧУНЕНЕ.**

Вільнюс.

---

**Ілюстрацый львоўцы выставілі нямнога, але ілюстрацыі добрыя. Зразумела, тут і Леся Украінка, і Іван Франко, і М. Стэльмах і нават народная гуцульская песня, — аднак сустракаем і малюнкі да «Маніфеста Камуністычнай партыі» (В. Лучко). Яны зроблены на высокім узр Слабей выглядаюць ілюстрацыі да «Дзённікаў Й. Ціхага» С. Лема (В. Пінігін).**

**Вельмі цікава малюе Г. Ляціцкая. Яе «Скамарохі» (з серыі «Музыкі») і «Што ёсць ісціна?» (з серыі «Роздум чалавечы») пабудаваны даволі складана. Не пазбаўленыя алегорый, яны звяртаюцца не столькі да пачуццяў, сколькі да думак гледача.**

**Калі меркаваць па гэтай выстаўцы, для львоўскіх майстроў-графікаў наогул характэрна імкненне да распрацоўкі тэм цэлымі серыямі. Вось і І. Собалева прадставіла серыю работ пра Львоў. Вырашаныя ў цёмнай танальнасці, месцамі адліваючы золатам, малюнкі ўводзяць нас у свет старажытнага Львова — свет даволі змрочны, поўны пастаяннага чакання небяспекі, але ж па-свойму прыгожы.**

**К. МІХАЙЛАЎ.**

# «ЗОРНЫ» ПАРАД

*КАНЦЭРТ «ТАВАРЫШ КІНО» У МІНСКІМ ПАЛАЦЫ СПОРТУ*

...Іх ведаюць мільёны. Іх папулярнасць даўно разнеслася па нашай краіне і нават перакрочыла яе межы.

І вось кіназоркі часова «сышлі» з экрана, каб даць грандыёзны канцэрт, павесці жывую размову з аматарамі кінамастацтва.

У вялікай зале, дзе сабраліся мінчане і госці беларускай сталіцы, амаль тры гадзіны гучалі вершы, інтэрмедыі, імправізацыі, танцавальныя мелодыі. Яны чаргаваліся з кінакадрамі. Магутныя праектары ажыўлялі адразу на трох экранах фрагменты са знаёмых фільмаў (трэба сказаць, што аўтары прадстаўлення па-майстэрску выкарысталі навейшыя дасягненні кінатэхнікі). На экране і на сцэне — усім вядомыя ветэраны кіно і маладыя выканаўцы. Што ні выступленне, то апладысменты, апладысменты, апладысменты...

Потым выйшаў на сцэну Васілій Паўлавіч Салаўёў-Сядой, сеў за раяль, і некалькі тысяч чалавек разам са славутым кампазітарам спявалі «Вечар на рэйдзе», «Падмаскоўныя вечары»...

Гэта была хвалюючая сустрэча дзеячоў мастацтва з працоўнымі нашай сталіцы. Арганізатары прысвяцілі яе надыходзячаму святу народаў СССР.



А. Анофрыеў.



Н. Пыр'ева і Н. Фацеева.



Л. Хіцяева.



Н. Мардзюкова.



Г. Віцын.



Б. Андрэеў.



Л. Гурчанка.



В. Салаўёў-Сядой.



Э. Быстрыцкая і С. Маркушаў.



Ул. Дружнікаў.

---

толькі я пра гэтыя прыемныя навіны даведваюся ў апошнюю хвіліну. У аддзяленні больш за дваццаць баб... Толькі тое і робяць, што ходзяць у гэты самы... дэкрэтны адпачынак. Прыдумалі ж слова: «дэкрэтны»... Калі ён пачнецца ў вас?..

ВАЛЯНЦІНА ІВАНАЎНА. Не ведаю пэўна... Сёння паеду наконт бюлетэня.

ІГАР ЛЬВОВІЧ (*узгараецца*). Ну, вядома! Перш за ўсё бюлетэнь! Перш за ўсё клопат пра сябе! А на тое, што ў яе хворага складаная аперацыя — на гэта ёй напляваць. (*Машынальна зноў знімае з цвіка халат, апранае яго.*)

ВАЛЯНЦІНА ІВАНАЎНА. Ну, дык што ж мне рабіць, Ігар Львовіч... Я ж не вінавата...

ІГАР ЛЬВОВІЧ (*спыняецца перад Валянцінай Іванаўнай*). Бачылі яе — яна не вінавата!.. Дык можа гэта я вінаваты?

*Уваходзіць Піліпаўна з анучаю і шчоткай.*

ПІЛІПАЎНА (*да Валянціны Іванаўны*). Ваш муж чакае вас унізе.

ІГАР ЛЬВОВІЧ (*бурчыць*). Ваш — вас... Вас — ваш...

ВАЛЯНЦІНА ІВАНАЎНА. Я зараз.

ІГАР ЛЬВОВІЧ (*зноў скідае халат*). Пачакае, калі чакае. (*Астывае гэтак жа хутка, як і закіпеў.*) І дзе яна такога падчапіла сабе, што прыходзіць — чакае...

ПІЛІПАЎНА (*выціраючы пыл, убок*). Знайшла цацу ў смецці...

ІГАР ЛЬВОВІЧ (*развесяліўшыся*). Затое я некалі быў маладым мужам і бацькам!.. Адно захапленне! Жонка як зацяжарыла, дык я саромеўся хадзіць з ёю па вуліцы. Убачу здалёк каго-небудзь знаёмых ці сяброў — і хутчэй дзёру ад жонкі! У другі бок!

ВАЛЯНЦІНА ІВАНАЎНА. Ігар Львовіч, вы ж гэта ўсё выдумалі...

ІГАР ЛЬВОВІЧ. Навошта мне выдумляць?.. Мне, калі мне прыспічыла зрабіцца шчаслівым бацькам, не было яшчэ поўных дзевятнаццаці год...

ПІЛІПАЎНА. Не было каму добра адлупцаваць такога бацьку.

ІГАР ЛЬВОВІЧ (*весела*). Жонка лупцавала! Яна за мяне старэйшая на пяць гадоў... Па пашпарту!.. А там бог святы ведае, на колькі... У вас, у мілых стварэнняў, раней гэта здаралася нярэдка... Дык вось яна мяне і вучыла! (*Выходзіць.*)

ВАЛЯНЦІНА ІВАНАЎНА. Не, мой муж не саромеецца. Ён так чакае!.. (*Пудрыцца.*)

ПІЛІПАЎНА. Ідзі лепей хутчэй...

ВАЛЯНЦІНА ІВАНАЎНА. Скажыце, Піліпаўна, за што вы не любіце майго мужа?

ПІЛІПАЎНА (*з жорсткасцю шаруе падлогу шчоткай*). Не люблю складаных ножыкаў...

ВАЛЯНЦІНА ІВАНАЎНА (*крыўдзіцца*). Ну, навошта вы так?..

ПІЛІПАЎНА (*не слухаючы яе*). Такія звычайна на людзях ды пры начальстве гэтакія далікатныя ды прыстойныя Толькі і чуеш: прабачце ды калі ласка... А дома з жонкаю гад гадам!

ВАЛЯНЦІНА ІВАНАЎНА (*з болем*). Не трэба так, Піліпаўна. Мой муж не такі. (*Выходзіць.*)

ПІЛІПАЎНА. Твой залаты, ды яшчэ з мёдам...

---

МУЗЫКА, МУЗЫКАНТЫ

# СПРАВАЗДАЧА ПЕДАГОГА

У ГЭТЫ вечар у вялікай зале Беларускай Дзяржаўнай кансерваторыі стаяла асаблівая цішыня. Між іншым, так бывае заўсёды, калі іграюць «нашы», выхаванцы кансерваторыі. Іх поспех і няўдача нібы дзеляцца тады «на ўсіх». Алена Васільчанка, асістэнт кафедры фартэпіяна, атрымала музычную адукацыю ў Мінску. Займалася спачатку ў Цэнтральнай музычнай школе, затым у кансерваторыі, аспірантуры (клас дацэнта І. А. Цвятаевай). Сёння мы прысутнічаем на чарговым канцэрце маладой выканаўцы.

Прыемна адзначыць, што А. Васільчанка адмовілася ад традыцыйнага падбору праграмы, якая ўключае звычайна творы розных аўтараў, стыляў, напрамкаў. Яе выступленне цалкам прысвечана П. І. Чайкоўскаму.

Гучыць музыка... Адна за другой ажываюць пад пальцамі піяністкі малюнкі рускай прыроды, услаўленай кампазітарам. «Студзень», «Люты», «Жнівень» — «Поры года», незабыўныя старонкі музычнай паэзіі Чайкоўскага.

У другім аддзяленні выконвалася Вялікая саната (соль мажор), адзін з надзвычай складаных фартэпіянных твораў па стылю, велізарнай эмацыянальнасці, бліскучай інструментальнай фактуры. Першая частка ўрачыстая, шырокая, сімфанічная па гучанню і яркасці кантрастаў. У другой — іншая сфера настрояў — жалобная лірыка, глыбокая меланхолія. Скерца—бліскучая, эфектная п'еса. Фінал — урачысты, з народна-жанравымі рысамі. Саната вызначаецца ўнутранай экспрэсіяй і разам з тым суцэльнай, выразна адмежаванай архітэктонікай. Задача выканаўцы была нялёгкай. А. Васільчанка цалкам справілася з ёй. Выканаўчая культура, добры музычны густ, пачуццё стылю адчуваліся слухачамі вельмі выразна. Трэба спадзявацца, што з цягам часу гукавая палітра піяністкі стане яшчэ больш багатай і разнастайнай. Цікавыя работы ёсць у А. Васільчанкі таксама па тэорыі піянізму. Так, у Ленінградзе рыхтуецца да выдання зборнік артыкулаў педагогаў кафедры фартэпіяна «Развіццё фартэпіяннага мастацтва ў Беларусі», дзе змешчаны яе нарыс, прысвечаны фартэпіяннай творчасці народнага артыста БССР А. Багатырова.

Ёсць у А. Васільчанкі і вучні—студэнты кансерваторыі. Гэта яны так актыўна «перажывалі» ў час яе канцэрта. Неўзабаве некаторым з іх прыйдзецца выступіць у конкурсе на лепшае выкананне твораў савецкіх кампазітараў, які адбудзецца ў снежні, тады «хварэць» за сваіх выхаванцаў давядзецца педагогу...

**І. МОРЫХ.**

## *Лёгкім штрыхам*

**Сяброўскія шаржы З. ПАЎЛОЎСКАГА**



Рыгор Барадулін.



Аляксей Русецкі.



Генрых Вагнер.



Міхась Скрыпка.




ПРАЗ які ўжо месяц пасля ўрачыстага наваселля я кожны раз нервова дрыжаў, калі вяртаўся дамоў і націскаў кнопку званка сваёй кватэры...

Адчыняла змрочная жонка. Ні на што не спадзеючыся, я ўсё ж хваравіта пытаў:

— Ну, як? Пачалі ўжо?

— Пачалі...

Ды і сам я выразна чуў, як з усіх бакоў несліся гукі: ад суседа справа — бравурныя акорды піяніна; ад суседа злева — пяшчотны голас флейты; над самай галавой — мядзведзем раўла сярдзітая труба адстаўніка Івана Хведаравіча: ур-ур-ур... А ўнізе, што рабілася ўнізе! Нават цяжка ўявіць чалавеку, які не паспытаў усяго гэтага некалі... Уключаны на ўсю магутнасць магнітафон з моднай заходняй песенькай роў і падвываў піліпаўскім ваўком.

Я набіваў у вушы добрыя камякі ваты, клаўся на канапу, ды ўсяроўна круціўся, нібы мяне кусаў цэлы пчаліны рой. Вынаходлівая жонка адкручвала на кухні ўсе краны, робячы спробу хоць трохі заглушыць брыдкія, настойлівыя гукі... Урэшце перамагала ўсё-такі музыка: не вытрымаўшы яе націску, мы здавалі свае баявыя пазіцыі. Я бег да таварыша, жонка ратавалася ў сяброўкі... Толькі позняй ноччу, калі горад ужо моцна спаў, змучаныя, мы вярталіся дамоў.

Раніцою, перад працай, я з суровай рашучасцю «пагутарыць канчаткова» выходзіў у двор і чакаў сваіх музычных суседзяў. Я ўвесь дрыжаў ад святога гневу. Але што за агідны характар! Ледзьве я толькі бачыў іх задаволеныя, напышлівыя твары, адразу губляў усю ўпэўненасць і нешта мармытаў, накшталт:

— А вы ўчора ігралі, Іван Хведаравіч...

— Ну, іграў... Што, прыгожа?

— Прыгожа, прыгожа, — крывіўся я. — Ды вось толькі даўгенька...

Але Іван Хведаравіч разумеў мяне зусім не так, як трэба: ён блізарука жмурыў на мяне свае старэчыя выцвілыя вочы і паблажліва заўважаў:

— Ну, вядома... Музыка патрабуе поўнай аддачы. Калі хочаце — нават самаахвярнасці!

У яго былі даўгія рукі з кашчавымі музычнымі пальцамі, і адзін з іх імкліва стартаваў уверх і застываў ля вуха — роўна на столькі, каб павучальна паўтарыць:

— Самаахвярнасці!

Ах, які разумнік, які мне кампазітар знайшоўся... Я злаваў і амаль з нянавісцю свідраваў сваім позіркам яго згорбленую спіну пад зялёным сукном фрэнча, а потым, санлівы, разбіты, цягнуўся на тралейбусны прыпынак.

Цяпер амаль неадступна — і ў дарозе, і на працы — мяне мучыла адна і тая ж думка: дзе выйсце?

Аднойчы, надвячоркам, калі мае суседзі наладжвалі свой чарговы канцэрт, я блукаў па вуліцах і выпадкова забрыў у магазін музычных інструментаў. Чаго тут толькі не было — ад велізарнага барабана да элегантнай маленькай скрыпачкі... Як Дон Кіхот, гатовы ўступіць у бойку з млынам, тупа і зласліва пазіраў я на гэтых сваіх ворагаў. Страшэнная помста спела ў маім сэрцы, гарэла ў вачах. І калі спалоханы прадавец наблізіўся і спытаў, што мне трэба, я велічна і рашуча паказаў у кут:

— Упакуйце вунь тое... самае вялікае.

У гэты дзень мы з жонкай мо ўпершыню нікуды не пайшлі і заснулі спакойна: пакупка поўнасцю апраўдала сябе.

Эфект быў ашаламляльны. Ледзьве за нашай сценкай танклява завярашчала флейта і хрыплява, натужна, забурчэла труба, ледзьве піяніна заіграла ўрачысты марш тарэадора, я выскачыў на сярэдзіну пакоя і... з усяе моцы ўдарыў у вялізны барабан! Здавалася, вясновы гром пракаціўся ў вышыні... А я лупіў і лупіў шалёна ў барабан, аж пакуль да сёмага поту не дайшло. Нарэшце, спыніўся і не паверыў вушам: навокал было ціха-ціха, нібы ў тым ранішнім лесе. Ні гуку, ні акорду... Усё замёрла.

Потым неяк няўпэўнена і бездапаможна піскнула флейта — я зноў грымнуў барабанам. Потым незадаволена забурчэла-азвалася труба — і я адказаў дробным папераджальным пошчакам... Потым усё сціхла, угаманілася, і Іван Хведаравіч...

Не, з Іванам Хведаравічам мы ўжо назаўтра сустрэліся на тралейбусным прыпынку. Цікавая сустрэча была, між іншым.

— Вы нешта доўга ўчора рэпеціравалі, калега, — панура сказаў ён мне з выразным жаданнем прадоўжыць гутарку.

— Ну, што вы, — сціпла запярэчыў я. — Я ж толькі пачынаю... А музыка, як вы добра ведаеце, патрабуе самаахвярнасці.

І якраз, як калісь ён, я шматзначна тыркнуў у блакітнае паветра сваім кароткім, немузычным пальцам і з асалодай паўтарыў:

— Самаахвярнасці, калега!

**Аўдоля КОРЧ**

## «БОСЫЯ НА ВОГНІШЧЫ»

*ПРЫСВЯЧЭННЕ ПРЫСВЯЧЭННЯМ*

У вочы вогнішчаў глядзець,
як продкі у свой час,
успамінаць іх,
шкадаваць,
чаго няма ў нас...

С. Панізнік («Рыгору Барадуліну»).

І людзі, адыходзячы ў маўчанне,
адзначылі застыглым рэхам круг,
дзе толькі што спявалі свае песні.
Каб некалі шукальнікі
ў раскопках
убачылі пад знятымі пластамі
адмеціны ад полымя агнёў,
узнялі несатлелае вуголле...

С. Панізнік («Ул. Караткевічу»).

**Сядзелі босыя на вогнішчы паэты,**
**Шукальнікі пазнаюць месца тое:**
**Грамулька сала і шматкі газеты,**
**Зямля ўтаптана, як ля вадапою.**
**І «рэха ачунелае» на ўзгорках**
**Выгуквае ў «застыглай» асалодзе:**
**«Балезныя, Сяргей! Рыгорка!!**
**Ці давялі да хаты вы Валодзю!»**

## З ФРАНЦУЗСКАГА ГУМАРУ

*Маладая, прыгожая, элегантная жанчына зайшла ў кнігарню, спытала.*

*— Ці ёсць у вас лацінскі слоўнік, дзе можна было б знайсці такія фразы: «Я хачу пайсці ў оперны тэатр», «Якім аўтобусам можна даехаць да аэрапорта?», «Калі адыходзіць цягнік?» і г. д.*

*— Мадам, лацінскіх слоўнікаў з такімі фразамі няма. У той час не было оперных тэатраў, аўтобусаў, аэрапорта, цягнікоў.*

*— Але мне вельмі патрэбен такі слоўнік. Праз тыдзень я еду ў Лацінскую Амерыку!*

□

*У асуджанага да пакарання смерцю начальнік турмы пытае:*

*— Можа вы жадаеце чаго-небудзь? Чарку рому, каньяку? Цыгарэту?*

*— Не, дзякуй...*

*— Па звычаі трэба выканаць апошняе жаданне асуджанага. Дык чаго б вы хацелі?*

*— Я хацеў бы вывучаць англійскую мову.*

□

*— Паслухай, Мішэль! Па тэлебачанні гаварылі, што нікаціну з аднаго пачка цыгарэт дастаткова, каб забіць каня.*

*— Ты добра зрабіла, што папярэдзіла мяне, Марыя. Калі я ўбачу, што мой конь курыць, ён будзе мець справу са мной.*

□

*Аднойчы багаты фінансіст праглынуў за абедам курыную костку, і яна засела ў яго ў горле. Задыхаючыся, ён прахрыпеў жонцы:*

*— Доктара!*

*Хутка прыехаў вядомы ўрач і выцягнуў костку.*

*— Дзякуй, доктар, — сказаў пацыент, — вы выратавалі мне жыццё і можаце прасіць любое ўзнагароджанне.*

*— Добра, — усміхнуўся ўрач, — дайце мне дзесятую частку таго, што вы хацелі мне прапанаваць, калі задыхаліся.*

□

*Ноччу мужа і жонку абудзіў шум у сталовай. Жонка ўстала і зірнула ў замочную шчыліну.*

*— Ой, — ускліканула яна. — Да нас залез злодзей і есць торт, які я прыгатавала на заўтра.*

*— Куды пазваніць, — спытаў муж, — у паліцыю ці ў хуткую дапамогу?*

Пераклаў В. АГРЫЗКА.

По тэхнічных умовах унутраныя восем старонак газеты друкуюцца і выпускаюцца асобна ад васьмі знешніх. Атрымаўшы або набыўшы газету, укладзіце ўнутраныя аркушы ў знешнія.

«Литература и искусство» — орган Министерства культуры и правления Союза писателей БССР. Минск.

«ЛІТАРАТУРА І МАСТАЦТВА»

Выходзіць па пятніцах.

Ордэна Працоўнага Чырвонага Сцяга друкарня выдавецтва ЦК КП Беларусі.

Адрас рэдакцыі: 220600, ГСП, Мінск, вул. Захарава, 19.

Тэлефоны: прыёмнай рэдакцыі — 33-24-61, намесніка галоўнага рэдактара — 33-25-25, адказнага сакратара — 33-44-04, аддзела літаратуры — 33-22-04, аддзела тэатра, кіно і музыкі — 33-24-62, аддзела выяўленчага мастацтва, архітэктуры і вытворчай эстэтыкі — 33-24-62, аддзела публіцыстыкі — 33-21-53, аддзела культуры — 33-24-62, выдавецтва — 32-22-19, бухгалтэрыі — 32-15-87.

Рукапісаў рэдакцыя не вяртае.